
„Гуды” на Актаве➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Гасцінныя Бандары➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (2986) Год LVIII | Беласток, 4 жніўня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


«Мы з розных краін, мы належым да розных пакаленняў, розных поглядаў, але што нас яднае нашмат большае — мы беларусы»,— адзначыла Алена Макоўская

# З'езд беларусаў свету — праз 20 гадоў

**У Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Іаганеса Рау 23 і 24 ліпеня працягваў працу VI З'езд беларусаў свету, асноўнай тэмай якога быў стан беларускай нацыі ва ўмовах глабалізацыі. З'езд праз 20 гадоў ад першага арганізавала Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына”».**


фота Міры ЛУКШЫ

„Што будзе з намі беларусамі” — злева: Пятро Краўчанка (былы міністр замежных спраў Беларусі) і Уладзімір Някляеў (паэт і нядаўны кандыдыт у прэзідэнты РБ)

МГА «ЗБС „Бацькаўшчына”» ладзіць з'езды беларусаў свету раз на чатыры гады пачынаючы з 1993 года. На Першым з'ездзе сабралася больш за тысячу чалавек — дэлегатаў з Беларусі і беларускіх асяродкаў замежжа. Беларусь у той час, з набыццём незалежнасці, вітала сваю дыяспару на дзяржаўным узроўні. Дваццаць гадоў пасля той падзеі прыйшоў час, каб ацаніць здабыткі і страты апошніх гадоў, прааналізаваць гісторыю і сучаснасць беларускага замежжа. На VI З'езд сабралася амаль 300 дэлегатаў, якія прадстаўлялі беларускія дыяспары з 18 замежных краін. Многія выдатныя прадстаўнікі беларускай дыяспары не прыехалі ў Мінск з-за ўзросту ці палітычных меркаванняў. У рамках з'езду працавалі тры тэматычныя секцыі: па пытаннях, што датычацца магчымасцей унутраных сіл Беларусі і дыяспары па ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці; культурнай спадчыны беларускага замежжа; супрацоўніцтва «новай» і «старой» эміграцыі на карысць нацыянальнага развіцця. У другі дзень з'езду яго ўдзельнікі прынялі шэраг важных дакументаў і абралі кіраўнічыя органы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

За мяжой пражывае больш за 3,5 мільёна этнічных беларусаў. Чакалася, што ў з'ездзе возьмуць удзел 332 дэлегаты, але ранкам 23 ліпеня зарэгістраваліся толькі 254. 108 — з Беларусі, 7 — з Вялікабрытаніі, 3 — з ЗША, 1 — з Канады, 6 — з Латвіі, 11 — з Літвы, 15 — з Украіны, 1 — са Швейцарыі, 2 — з Нямеччыны, з Польшчы — 16...

З часу апошняга з'езду адышлі дзясяткі сяброў «Бацькаўшчыны». Між іншым Янка Абабурка, Юрый Гіль, Уладзімір Кіт, Вера Рыч, Кастусь Маскалік, Рагнеда Аляхновіч, Янка Жучка, Анатоль Белы, Павал Урбан, Ганна Пазняк, Сакрат Яновіч, Валянцін Грыцкевіч... Іх памяць была ўшанавана хвілінай маўчання. Не ўчуліся і гукі сурмы, пад якія пачыналіся папярэднія форумы: летась памёр дудар Уладзімір Пузыня.

Першы дакумент, які быў зацверджаны агульным галасаваннем, тычыўся дачыненняў беларусаў замежжа з уладамі, найперш неабходнасці прыняць закон «Аб беларусах замежжа». Размова пра яго неабходнасць вядзецца ўжо 20 гадоў, але ён дагэтуль не прыняты. Не замацаваны і статус «беларус замежжа». У сваім звароце да дэпутатаў, ураду ды кіраўніка дзяржавы ўдзельнікі з'езду гавораць таксама, што не прынятая дзяржаўная праграма «Беларусы ў свеце», не створаны дзяржаўны камітэт па справах беларусаў замежжа, у парламенце няма камісіі па справах беларусаў замежжа, а ў Акадэміі навук — навуковага цэнтра, які б вывучаў беларускую дыяспару. «Невыкарыстанне найбагацейшага патэнцыялу беларускай дыяспары прыносіць вялікія страты дзяржаўным інтарэсам Беларусі!» — адзначана ў дакуменце. Таксама была прынята праграма «Беларусы замежжа (2013-2017)», якая ставіць мэту захаваць беларускую прысутнасць у свеце ў розных яе праявах, кансалідаваць беларускую нацыю і ўмацаваць грамадзянскую супольнасць у Беларусі.

Усе дэлегаты з'езду пагадзіліся з рэзалюцыяй «Беларуская мова — галоўны фактар захавання беларускай нацыі»: «Мы звяртаемся да ўсіх беларусаў у метраполіі і замежжы з заклікам актыўна, штодзённа выкарыстоўваць беларускую мову ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці». Гэтае пытанне не выклікала спрэчак. Але абмеркаванне заявы «Аб акце добрай волі» заняло шмат часу, бо ў ёй было запісана пытанне пра палітвязняў. «Мы заклікаем улады Беларусі зрабіць акт добрай волі і вызваліць з месцаў зняволення людзей, якія знаходзяцца там у знак пакарання за свае палітычныя перакананні». Частка дэлегатаў (з Украіны і Расіі) папрасіла зняць гэты дакумент з абмеркавання, бо ён мае палітычны характар і кранае ўнутраную праблему краіны. Вельмі раздзяліліся галасы ў падтрымку змены ў пастанове, якую прапанаваў Станіслаў Шушкевіч (за яе прагаласавала 80 дэлегатаў, 118 устрымалася ад голасу) адносна палітвязняў і іх поўнай рэабілітацыі. Было сказана проста і «лагодна», каб не раздражняць, а яднаць, каб дзейнічаць. Гэтыя прапановы не прайшлі, і ўрэшце заява зацвердзіў у першапачатковым выглядзе.

Паводле **Алены Макоўскай**, з часу апошняга з'езду на 10-15 працэнтаў знізілася колькасць беларускамоўных сярод дыяспары (вядома, па сацыялагічных апытаннях):

— Умова захавання дыяспары — захаванне на належным узроўні яе нацыянальнай ідэнтычнасці і самабытнасці, — адзначыла пераабраная прэзідэнт ЗБС «Бацькаўшчына». На яе думку, толькі гэта зможа абараніць беларусаў ад асіміляцыі ў тых краінах, дзе яны зараз жывуць. Падзякавала ўсім тым, хто спрычыніўся да арганізацыі з'езду, ды ўсім беларусам, якія «думаюць пра сваю краіну і падмацоўваюць сваю любоў да Радзімы канкрэтнымі дзеяннямі». Заявіла яна, што беларускай дзяржаве варта разглядаць беларускую дыяспару ў замежжы як важнейшы знешнепалітычны, эканамічны рэсурс. «І, нарэшце, зрабіць працу з беларускім замежжам адным з прыярытэтаў сённяшняй палітыкі нашай дзяржавы. Мы не можам супрацьстаяць працоўнай міграцыі. Мы жывем у часы глабалізацыі. Але мы можам агульнымі высілкамі дзяржавы і грамадскасці супрацьстаяць асіміляцыі, развіваць і падтрымліваць нацыянальную культуру, зрабіць так, каб нацыянальная мова беларускага народа заняла належнае месца ва ўсіх сферах жыцця. Мы можам хаця б пачаць гэты працэс. Амаль 3,5 мільёна этнічных беларусаў жыве за межамі сваёй радзімы. Але дыяспара штогод змяншаецца. І зусім не таму, што беларусы вяртаюцца на радзіму. Беларуская — гэта велізарны чалавечы рэсурсы. Дыяспара валодае эканамічным, сацыяльным, культурным і грамадска-палітычным патэнцыялам. І важнасць гэтага патэнцыялу ўзрастае ва ўмовах глабалізацыі, калі адбываецца знікненне межаў, ідзе актывізацыя свабодных патокаў людзей, ідэй, тавараў. Падыход да сваёй дыяспары, як да важнейшага знешнепалітычнага эканамічнага рэсурсу, сустракае ўсё больш распаўсюд у міжнароднай практыцы. Мы спадзяемся, што такі падыход будзе і ў Рэспубліцы Беларусь, таму што гэта шлях у будучыню. Зрабіць стаўку на беларускую дыяспару дзяржава можа даве́ўшы да канца распрацоўку закону аб беларусах замежжа і прыняўшы яго. Упершыню ў Беларусі канцэпцыя законапраекта аб суайчынніках, якія пражываюць за мяжой, была распрацавана Камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей у 2001 годзе. Аднак прадстаўнікі «Бацькаўшчыны» не былі задаволеныя гэтай канцэпцыяй, паколькі ў яе аснове ляжаў адпаведны закон Расейскай Федэрацыі, які для Беларусі не падыходзіў. Праца над законапраектам аднавілася ў 2009 годзе, прычым прапановы аб'яднання былі ў гэты раз улічаныя, у прыватнасці тэрмін «суайчыннік» быў заменены тэрмінам «беларус замежжа». Зараз гэты законапраект блізкі да прыняцця. Толькі разам, аб'яднаўшы свае намеры, як было 20 гадоў таму на Першым з'ездзе беларусаў свету, мы зможам справіцца з новымі выклікамі і праблемамі, якія стаяць перад намі. Нам трэба весці сумесную працу па паглыбленню нацыянальнай ідэнтычнасці — гэта базавыя ўмовы існавання не толькі дыяспары, але і самой Беларусі. Нам неабходна заканадаўча замацаваць статус беларусаў замежжа і зрабіць працу з беларускім замежжам прыярытэтам дзяржаўнай палітыкі», — падагуліла кіраўнік «Бацькаўшчыны».

Алена Макоўская звярнула таксама ўвагу на тое, што паваенная хваля беларускай эміграцыі, якую складалі носьбіты сапраўднай нацыянальнай ідэнтычнасці і самабытнасці, здолела і без падтрымкі савецкай дзяржавы супрацьстаяць асіміляцыі, выжыць і стварыць свае нацыянальныя цэнтры, якія існуюць да гэтай пары: «Сёння большыня эмігрантаў, якія з'язджаюць з Беларусі, не маюць глыбокай нацыянальнай і культурнай повязі са сваёй Радзімай. Таму мы і ставім пытанне захавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці як самае галоўнае і актуальнае для жыцця беларусаў на Бацькаўшчыне і па-за яе межамі». Алена Макоўская заклікала беларускую дзяржаву праводзіць сваю палітыку, звязаную з нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі. На яе меркаванне, гаворка ідзе пра тое, каб прыцягваць на Бацькаўшчыну высокакваліфакаваных спецыялістаў, асабліва з беларускага замежжа.

— Калі чалавек у першым пакаленні губляе мову, то ў другім і трэцім — ён губляе нацыянальнасць, — адзначыў у сваёй прамове старшыня Таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў**. Па агучаных ім звестках, яшчэ зусім нядаўна ў суседняй Польшчы беларусаў налічвалася 300-400 тысяч, а ў апошні перыяд — па афіцыйнай статыстыцы — толькі 47 тысяч. У Расіі нядаўна было 1,5 мільёна беларусаў, а зараз толькі 800 тысяч насельніцтва Расіі называе сабе беларусамі. Таксама ў некаторых краінах знікаюць беларускія структуры — як у Бразіліі, Балгарыі, Іспаніі. Затое ўзніклі ў Грузіі і Швейцарыі.

Былі выбраны новыя сябры Вялікай Рады ды іншых кіраўнічых органаў аб'яднання, а таксама папоўніўся спіс ганаровых сяброў арганізацыі — тых, хто 10 і болей гадоў актыўна працуе на яе карысць. Сярод тых, хто быў названы ганаровым сябрам на з'ездзе — Рыгор Барадулін, Яўген Вапа, Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Тацяна Казак, Хведар Нюнька ды іншыя. Ніна Шыдлоўская была пераабрана старшынёй Рады.

(працяг будзе)

**Запісала Міра ЛУКША**





# Парадокс

Парадокс — ёмкае слова, якое найлепш характарызуе наш час. Вікіпедыя так вызначае гэты панятак: парадокс — сітуацыя, якая можа існаваць у рэальнасці, але не мае лагічнага тлумачэння. Ну якое лагічнае тлумачэнне можна знайсці ў рашэнні Еўрапейскага суда па правах чалавека, які судовы працэс над расійскімі прадпрымальнікамі Міхаілам Хадаркоўскім і Платонам Лебедзевым прызнаў „несправядлівым", але не ўгледзеў у ім палітычных матываў.

Да гэтага дня лічылася, што не заўважыць палітычных матываў у нашумеўшай справе над кіраўніком ЮКАСа можа толькі расійскі суд. Якія ж яшчэ маглі быць матывы, як не палітычныя, у справе над буйнейшымі бізнесоўцамі, капіталы якіх не абміналі і палітычнага жыцця Расіі, прычым не на карысць Уладзіміра Пуціна? Таму такія, адначасова зробленыя фармулёўкі як „суд несправядлівы" і „ў працэсе няма палітычнай падаплёкі" выглядаюць не проста парадаксальнымі і пазбаўленымі ў гэтай сітуацыі элементарнай логікі, але наводзяць на думку, што ў гэты палітычны працэс ужо ўцягнуўся не толькі расійскі суд.

Можна, канешне, выказаць прымітыўную здагадку, што юрыдычна граматныя і бездакорныя ў пошуках справядлівасці еўрапейскія клеркі проста не арыентуюцца ў палітычнай сітуацыі Расіі і ўсёй паслясавецкай прасторы. І зусім не здагадваюцца, што непалітычных працэсаў у Расіі над вядомымі асобамі і фірмамі існаваць проста не можа. Ну то тады ўзнікае цяпер ужо лагічнае пытанне: навошта яны ў такім разе ўвогуле бяруцца разглядаць замежныя справы? Ці можа існуюць якіясь крытэрыі ў разглядзе падобных спраў, пра якія мы не ведаем?

У сувязі з гэтым прыходзіць на памяць і нашумеўшая некалі даўней справа над беларусам, сябрам КХП-БНФ Сяргеем Каваленкам, дзе Камітэт па правах чалавека ААН адмовіў яму ў прызнанні факту парушэння яго правоў, прадугледжаных некалькімі артыкуламі Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Сяргей Каваленка звяртаўся ў КПЧ ААН пасля таго, як Кастрычніцкі раённы суд Віцебска за вывешванне 7 студзеня 2010 года бел-чырвона-белага сцяга на ёлцы ў цэнтры горада прызнаў яго вінаватым у здзяйсненні „дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак".

Тады казалі, што была недапрацоўка ў самой скарзе пададзенай у КПЧ і паперы можна было б скласці больш прафесійна. Атрымліваецца, што на рашэнне сённяшніх еўрапейскіх чыноўнікаў уплывае не сітуацыя, у тым ліку і палітычная сітуацыя ў паслясавецкіх краінах і становішча з правамі чалавека ў іх, а ўменне пісаць паперкі. Хоць аж настолькі граматныя еўрапейскія юрысты маглі б, пры жаданні, і самі што дарабіць. Выклікаць, прыкладам, сведкаў і правесці ўласнае расследаванне. А ўвесь парадокс сітуацыі ў тым, што не прызналі факту парушэння правоў над чалавекам, якога прызналі палітвязнем. Маглі б хоць яго прозвішча па гуглю прабіць ды пачытаць, што там за сітуацыя.

Парадаксальнымі выглядаюць і адмовы ў палітычным прытулку тым, хто не можа застацца на Радзіме. Так, як некалі было з вядомым паэтам Славамірам Адамовічам, які і за кратамі быў, і актыўную дзейнасць праводзіў. Але палітычнага прытулку не дамогся. Прыйшлося яму фармулёўку „палітычны прытулак" замяняць на „прытулак паводле гуманітарных падстаў". А ў гэты самы час Еўропу масава засяляюць людзі, якія і блізка не сталі побач з праўдзівымі палітычнымі. Затое паперкі ў іх добра складзеныя, без адной памылкі. А тое, што там ані слова праўды, гэта мала каго цікавіць.

Нявольна пачынаеш зайздросціць нават такой жорстка пераследаванай дзяржавай катэгорыі людзей, як колішнія савецкія дысідэнты. Хоць, здаецца, зайздросціць няма чаму, бо за краты іх засоўвалі, і ў ссылкі, і ў псіхушкі. Ды чаго толькі не рабілі. Але іх сэрца грэла хоць бы тое, што недзе на гэтай планеце існуюць краіны, якія падзяляюць іх каштоўнасці, і што людзі ў гэтых краінах, уключаючы і чыноўнікаў, кіруюцца логікай.

Адсутнасць жа логікі, стварае парадокс, хаос і крах ідэалаў, за якімі няўмольна прыходзіць крах гэтай канкрэтнай цывілізацыі.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Беларус, ці ты шчаслівы?



У Польшчы працягваецца бясконцы плебісцыт — якой мы хочам Польшчы? Апытанне — дадам — падшытае ваеннай рыторыкай, гамбровічаўскай барацьбой на «гембы», паношанымі ідэалогіямі і сада-мазахістычнымі збітымі клішэ. Злыя эмоцыі як бактэрыі размнажаюцца. Здаровы розум становіцца ўсё больш і больш безабаронным. У плебісцытах ужо прымаюць удзел усе: беспартыйныя грамадзяне, прыхільнікі і антыпрыхільнікі: правыя, левыя і палікотнікі, а і паслядоўнікі фашызму, фетышызму, сімвалізму і касцёлізму ды іх непрымірымыя ворагі. Дык у якую хочам Польшчу? У тую адкрытую на свет, на людзей розных нацыянальнасцей і культур ды ідэалагічных арыентацый і, о жах, сексуальных, ці ў тую самапрыроджаную, патрыятычна-адзінапольскую, засценкавую, забабонную і неяк так беларускападобную.

Нічога дрэннага я не хачу сказаць пра беларусаў. Я толькі пытаюся іх, ці добра ім пад ападыктычным кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі? Кажуць быццам бы добра, што вынікае з рапартаў апытанняў грамадскасці навукова-даследчымі цэнтрамі. Грамадская думка гэта хаатычны збор індывідуальных адчуванняў кожнага грамадзяніна паасобку па любым пытанні, якія нічога не значаць да таго часу, пакуль яны не будуць упарадкаваны, апісаны па катэгорыях і ацэнены пры адпаведных вымярэннях даследаванняў. Іх вынік можа быць карысным у ажыццяўленні ўлады. Але можа таксама замінаць яе добраму самаадчуванню тым мацней, чым больш яна адарваная ад грамадства. Сакавіцкае абследаванне грамадскай думкі незалежнага ад улады навукова-даследчага інстытута НІСЭПІ паказала м.інш, што прэзідэнту Лукашэнку даверае 43,4% рэспандэнтаў, а не даверае 43,2%. Калі хтось камусь даверае, не ставіць яму дурных пытанняў. Дзякуючы гэтаму яму здаецца, што ён разумны. А яшчэ мудрэйшы той, у каго пра нішто не пытаюцца. Даследаванні НІСЭПІ ўскосна паказваюць, аднак, што ў Беларусі гэтых мудрых і нават мудрэйшых амаль столькі ж, што дурняў. Яны ўсё пытаюцца, чаму іх дзяржава кіруецца ўказамі прэзідэнта без палітычнай і грамадскай дэбаты. Сам указ з'яўляецца свайго роду заканадаўчым ярлыком, які выкарыстоўваецца ў крытычныя для дзяржавы моманты. Напрыклад, у час вайны. Права на іх прымяненне з неадкладным ажыццяўленнем найчасцей надзяляе галаве дзяржавы законна абраны парламент у святле канкрэтных умоў і на строга часовы характар. Аднак, Беларусь не ў стане вайны з нейкай з суседніх дзяржаў, што можна ўбачыць і пачуць. Такім чынам, вялікая частка дурных грамадзян надалей пытаецца ў свайго прэзідэнта, чаму ён па-ранейшаму кіруе імі так, быццам бы ішла крывавая і знішчаючая народ вайна. З усёй Еўропай, і ў дадатак з Расіяй. І гэта ад дваццаці гадоў.

Гэтае пакутлівае пытанне выплывае быццам бы пры нагодзе даследаванняў НІСЭПІ ў дачыненні да даверу беларусаў да свайго прэзідэнта. Пытанне, аднак, гэта проста пытанне. Але адказ на яго становіцца празмерна палітычным. Вядома, для ўлады, якой не падабаецца, калі хтосьці ёй ідзе ўпоперак. А паводле яе ідуць ёй упоперак навукова-даследчыя інстытуты, найбольш тыя незалежныя. Такім чынам ніжняя палата беларускага парламента прыняла рашэнне пакласці канец іх самаволі. З тых часоў будуць штрафавацца — незаконныя з пункту гледжання беларускага заканадаўства — агляды сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў краіне, прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Таксама той, хто даў адказ на незаконную анкету, будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Беларусе! Калі хто-небудзь спытаецца ў цябе на вуліцы, ці ты шчаслівы, перш чым адказаць, пераканайся, ці ён мае дазвол на гэта ад улады. Бо калі не мае, то незалежна ад твайго адказу, робіш правіну, якая караецца штрафам у памеры да 2 мільёнаў рублёў!

Хоць плебісцытная барацьба ў Польшчы нерафінаваная, падступная, паршывая і ў наступствах антыграмадская, аднак ігра ідзе ў рамках вызначаных правіл. Кожны можа кожнаму «наўтыкаць» у волю і без страху, што будзе пакараны штрафам. Ну, хіба што выйдзе за межы прыстойнасці або закону. Беларусь у гэтым пытанні прасунулася даўно крок наперад. Улада сапраўды клапоціцца пра тое, каб нікому не захацелася перакрочваць ніякіх межаў. Цікава, ці Польшча пойдзе яе следам.

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Фестываль прыемнага быцця



Працягваецца юбілейны — пяты выпуск Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Вяртэп». Як і кожны год спектаклі, прадстаўляныя ў яго рамках, аб'язджаюць мясцовасці паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. На гэты раз шэсць: Белавежу, Чаромху, Гайнаўку, Міхалова, Орлю і Палічну, у якой мае сядзібу культурная асацыяцыя «Паштоўка» і кіруючы ёю Дар'юш Скібінскі, які ўзначальвае фестываль. У прэс-рэлізе да адкрыцця мерапрыемства ў гэтым годзе напісана: «Назва „Wertep" спасылаецца на вяртэпныя тэатры, значыць, вандроўныя, якія існавалі да вайны на тэрыторыі Падляшша. На ўсходніх ускраінах Рэчы Паспалітай дзейнічалі тады сельскія тэатры, якія ставілі абрадавыя, святочныя, містэрыйныя, вулічныя п'есы. Фестываль не толькі спасылаецца на гэтыя традыцыі, а проста аднаўляе іх з вялікім поспехам на гэтых землях. Жыхары самі прызнаюць, што штогадовае наведванне мастакоў для іх і наведванне ў гэты час іх сем'яў з іншых частак ваяводства, ці нават Польшчы — гэта сапраўдныя свята». Падчас прэс-канферэнцыі, папярэджваючай сёлетні тэатральны маршрут, Дар'юш Скібінскі быў упэўнены:

— Выбіраем спектаклі няцяжкія па тэхніцы, у той час цікавыя, але не настолькі ўдараючыя артыстызмам. Мы не хочам, каб фестываль змяніўся ў аперэту з маніяй велічы. Мы выбралі гэтыя спектаклі, якія характарызуюцца нашым густам, якія паявіліся дзесьці ў нашым жыцці. У нашай праграме хопіць цудаў і метафізікі.

На пераломе ліпеня і жніўня выступяць у «Вяртэпе» дваццаць два тэатральныя калектывы, даўшы ў агульным выніку па пяць-дзевяць спектакляў для дзяцей, сем'яў і дарослых у кожнай вёсцы. У дадатак да польскіх ёсць тэатральныя калектывы з-за мяжы: з Даніі, Францыі, Італіі, Чэхіі і, традыцыйна, з Беларусі, з якой прэзентуецца Акадэмічны тэатр з Брэста. Ён паказвае поўную сімвалаў і метафар «Гісторыю Дон Кіхота», значыць, гісторыю самотнага рыцара і гожай Дульсінеі з выкарыстаннем хадуль, агню і танца. Закранаючы супрацоўніцтва з беларускімі партнёрамі, Дар'юш Скібінскі заявіў падчас сустрэчы з журналістамі:

— Спачатку нашай ідэяй было перанесці фестываль праз мяжу ў Беларусь. Мы хацелі, каб у яго рамках зайграць там з два разы. Магчыма, у наступным годзе мы зможам перамясціць адзін дзень фестывалю. Нас запрашаюць на фестываль «Белавежа» ў Брэсце.

Тут, аднак, ён дадаў:

— Мы павінны працаваць з гэтымі арганізацыямі ў Беларусі, якія маюць здольнасць рухацца, і якія не заблытаныя ў палітычнае жыццё.

Спасылаючыся на ўспрыманне «вяртэпных» выступаў у беластоцкіх мясцовасцях, кіраўнік фэсту адзначыў:

— «Вяртэп» стаў ужо часткай грамадскага дабра. Ён стаў іх дабром, мясцовым. Гэта від ідэнтычнасці, якая захапляе ўсіх, хто сюды прыязджае. Фестываль становіцца месцам прыемнага быцця. На Падляшшы людзі прыходзяць слухаць і глядзець гісторыі. З увагай і цікаўнасцю паглядзець, хто ёсць хто і што ён мае сказаць. Я гэтым уражаны.

У рамках сёлетняга «Вятрэпу» праводзяцца, між іншым, майстар-класы для дзяцей і дэбаты аб магчымасці фінансавай падтрымкі «малых» культурных мерапрыемстваў. Такім чынам арганізатары хочуць стварыць мастацкі кластар, у якім сутыкнуцца два светы — мастацтва і бізнесу, і будуць размаўляць аб магчымасці прасоўвання культурных мерапрыемстваў, дзякуючы чаму магчымым будзе супрацоўніцтва дзеячаў культуры з людзьмі эканомікі. З гэтай мэтай арганізавана ў Белавежы (4 жніўня) публічная дыскусія і сход ініцыятыўнай групы з партнёрамі праекта рэалізацыі інавацыйнага мыслення аб супрацоўніцтве ў рамках «мар'яжу» культуры з прасоўваннем рэгіёна і бізнесу.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Адзіныя такія — «Гуды»




Без сумневу, адной з самых цікавых падзей у чацвёртым сёлетнім выпуску Падляшскай актавы культур быў канцэрт гурту «Гуды» з Мінска. Больш за дзесятак музыкаў запаланіў майстэрствам ігры на дудах, дудках, акарынах і жалейках — невялікіх драўляных інструментах, якіх назву выкарыстаў у 1908 г. у зборніку вершаў Янка Купала. Ён пісаў: «Грай, мая жалейка, / Пей, як салавейка / Апявай нядолю, / Апявай няволю / І грымі свабодна, / Што жыве край родны». Падчас «Актавы» выступіла і іншая група з Беларусі — «Сунічка-Скавыш», якая прадставіла праграму песень і народных танцаў.

У гэтым годзе «Актава» (22-28 ліпеня; «Ніва» трымае патранат над ёю) здавалася быць крыху больш сціплай, чым раней. Не скрываў, што гэта было звязана з фінансамі, дырэктар фестывалю, а заадно Ваяводскага цэнтра анімацыі культуры Анджэй Дырдал. Аб ідэі мерапрыемства ён сказаў:

— Галоўным лозунгам сёлетняй «Актавы» з'яўляецца талерантнасць для адрозненняў і суіснаванне нават рашуча розных культур.

Выступілі каманды з адзінаццаці краін, і запрэзентаваліся не толькі ў сталіцы Падляшша (як правіла, на плошчы перад ратушай), але і ў шэрагу гарадоў рэгіёна, у тым ліку ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Белавежы і Нараўцы. Як і кожны год, фестываль адкрыў парад, які праходзіў ад каталіцкай кафедры пад ратушу. Кожная каманда дала вельмі кароткі шоў-тызер пазнейшых звычайна паўгадзінных шоў (у беластоцкім выпуску). Апладысментамі прынялі экзатычны з пункту гледжання беластачан, калі справа ў касцюмах і музыцы, турэцкі «Halk Danslari Toplulugu», вельмі экспрэсіўны ўкраінскі «Пролисок» ці беларускія «Гуды», члены якіх былі апрануты ў касцюмы, натхнёныя старажытнымі беларускімі і вялікакняствалітоўскімі традыцыямі. Гукам дуд, дабываных трыма членамі ансамбля, пачалася імпрэза. Кіраўнік мінскіх інструменталістаў праф. Ігар Мангушаў сказаў «Ніве» перад выступам у Беластоку:

— Можна сказаць, не крывячы душой і асабліва не хвалячыся, што наша каманда з'яўляецца адзінай у сваім родзе. Другой такой прафесійнай няма ні на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, ні ў Еўропе. Мы выкарыстоўваем большасць нацыянальных беларускіх духавых інструментаў. Падчас канцэрта ў Беластоку іграем на васьмі з іх. Наш ансамбль быў створаны ў 2000 годзе ў Дзяржаўным універсітэце культуры. Гэты ўніверсітэт з'яўляецца адзіным у працэсе навучання ігры на народных інструментах на прафесійным узроўні. Калектыў складаецца са студэнтаў. Пасля атрымання дыпломаў становяцца яны салістамі-інструменталістамі ў прафесійных калектывах, напрыклад, у філармоніі.

Адзначыў таксама:

— На жаль, у Беларусі не вырабляецца такіх інструментаў. Робяць іх майстры па заказе. Гэта наша вялікая праблема. Акрамя таго, няма ніякай сістэмы па навучанні ігры на іх у пачатковай і сярэдняй школах. Ёсць толькі на вышэйшым узроўні. Прыходзяць да нас студэнты, якія не валодаюць гэтымі інструментамі, а мелі справу з іншымі, тыпу трубкі, кларнета або флейты. За пяць гадоў задачай педагогаў з'яўляецца вывучэнне, каб спраўна валодалі імі. За гэтыя гады трэба асвоіць пяць ці шэсць інструментаў і давядацца пра семдзесят твораў распісаных на іх.

Спасылаючыся на касцюмы інструменталістаў-студэнтаў, сказаў:

— Гэта старыя беларускія касцюмы. Некаторыя бліжэй да шляхецкіх з заходняй Беларусі васемнаццатага стагоддзя, іншыя да літоўскіх шаснаццатага стагоддзя, калі мы жылі разам у Вялікім Княстве Літоўскім.

А што да самой музыкі:

— Музыка, якую прадстаўляем тут, у большасці мая аўтарская, па матывах. Я бяру агульны жанравы накірунак, падпеўкі і на гэтай аснове ствараю свае творы. Мы імкнемся не цытаваць народных тэм. Прабачце за параўнанне, але Шапэн таксама не прыводзіў нацыянальных тэм, але іх апрацоўваў. Так, як і ён, і я карыстаюся настроем, агульным кліматам народных песень.








Адзін з членаў гурту «Гуды» — студэнт Андрэй Сцяпанаў сказаў нам:

— Падобна як і мае калегі, і я іграю на ўсіх інструментах, якія прадстаўляем на фестывалі. Тут, аднак, я іграю на дудцы. Я скончыў музычнае вучылішча ў класе флейты. Хацеў навучыцца іграць на народных духавых інструментах, таму што іх гучанне падабаецца мне. Праблемай у ігры на іх з'яўляецца тое, што яны не завершаны ў выкананні, перш за ўсё ў сваім страенні, асабліва дуды і жалейкі. Усе яны зроблены ўручную. Пасля ўніверсітэта я хачу стварыць сваю ўласную групу ігры на гэтых інструментах.

Слухачы-гледачы былі трохі здзіўлены, калі «Гуды» на сваіх традыцыйных нацыянальных інструментах у канцы выступлення зайгралі джазавыя нумары, а на канец польскае «Sto lat!».

Кіраўнік групы «Сунічка-Скавыш» Ганна Захарына прадставіла «Ніве» свой калектыў, якога дзятва ў час парада несла перад сабою герб Мінска, то-бок сцэну Успення Прасвятой Дзевы Марыі на сінім полі, на срэбным воблаку, у чырвона-пурпурных шатах, акаленай двума анёламі і двума херувімамі:

— Мы працуем пры Цэнтры «Кантакт» у Мінску. Гэта цэнтр дадатковай адукацыі для дзяцей і моладзі. З'яўляемся фальклорным, вакальным і танцавальным калектывам. Танцуем і спяваем у традыцыйнай версіі і апрацоўцы. Існуем дзесяць гадоў. У складзе калектыву да двух соцень чалавек. Ёсць у нас дзеці ад пяці гадоў, але і дарослыя, і нават пажылыя людзі. Тым не менш, большасць з іх — дзеці і падлеткі. У Польшчы мы выступалі шмат разоў. У Беластоку мы таксама не першы раз.

У час перадапошняга дня «Актавы» (27 чэрвеня; прэзентаваліся ў той час на падратушнай сцэне «Гуды») сустрэлі мы Эдуарда Швайко, дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве. Менавіта ў гэты дзень, перад фестывальным канцэртам, у сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства праводзілася сустрэча прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей Беларусі з прадстаўнікамі арганізацый нацыянальных меншасцей, якія пражываюць на Падляшшы: беларускай (звязанай з БГКТ), украінскай, ромскай, татарскай і рускай. Дырэктар Швайко:

— Сустрэча адбылася па ініцыятыве ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі. З Беларусі прыехала каля трыццаці чалавек: кіраўнікі і асобныя мастацкія калектывы нацыянальна-культурных аб'яднанняў. З нашага боку былі між іншым армяне, рускія, украінцы, грэкі, татары і габрэі. Абмяняліся вопытам, у тым ліку, як меншасці функцыянуюць у абедзвюх краінах. Мы параўналі мадэлі, якія існуюць у абшары этнічнай і рэлігійнай палітыкі, і гэтыя мадэлі — заходнееўрапейская ў Польшчы і гэтая ў Беларусі.

«Актаву» завяршыў у Беластоку гала-канцэрт.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## „Цаглінкі” ў Ожышы

Не паспелі члены калектыву „Цаглінкі” са Старога Ляўкова адпачыць пасля паездкі ў Беларусь, а тут чарговае запрашэнне ад Галоўнага праўлення БГКТ на 6 ліпеня, на Купалле. Ну і як тут адмовіцца ад такога вылучэння, учыненага кіраўніцтвам гэтай прэстыжнай арганізацыі. Вядома, зноў у дарогу. На ўзорна сарганізаваным Купаллі ў Белавежы, як заўсёды, выступіла многа калектываў. І вось пасля поўначы „Цаглінкі” пакідаюць купальскую ўрачыстасць у разгары і вяртаюцца дамоў, бо перад імі чарговая паездка на чарговае мерапрыемства.

Адпачыўшы трошкі і спакаваўшы строі, раніцай 7 ліпеня адправіліся яны ў Ожыш, адкуль прыйшло запрашэнне прыняць удзел у IX Ожышскіх фальклорных сустрэчах.

Мерапрыемства адкрылася ў 11 гадзін. Фальклорныя сустрэчы пачаліся доўгім, шматколерным, рассяпаным карагодам, які ўзначалілі бурмістр горада Тамаш Якуб Суліма і капэла „Кліка” з горада Бяла-Піска. У мерапрыемстве прыняло ўдзел амаль 300 музыкантаў і народных спевакоў з Варміньска-Мазурскага ваяводства, Курпяў, Сувальшчыны і Падляшша. Запрэзентавалі яны песні і музыку, якія выраслі з многавяковай традыцыі, перадаванай з пакалення ў пакаленне. На сцэне выступілі 20 вакальных калектываў, 5 спявацка-танцавальных гуртоў, 7 капэлаў, 31 саліст, у тым ліку 22 сеніёры і 9 юніёраў. Узровень усіх выступленняў быў высокі.

„Цаглінкі” выступілі сумленна і чыста, а публіка не шкадавала ім апладысментаў. Прадстаўнікі іншых калектываў пажадалі пазнаёміцца з „Цаглінкамі”, наладзіць кантакты і абмен гуртамі. І „Цаглінкі” вельмі рады новым сяброўскім сувязям. Калі „Цаглінкі” пакідалі цудоўны, прыгожы горад Ожыш і шматлікую публіку, арганізатары фальклорных сустрэч сардэчна падзякавалі ім за прыезд, за іх песні, за іх беларускую культуру.

**Віктар БУРА**

## „Пад знакам Пагоні” ў жніўні

У жнівеньскі час працягваюцца летнія культурніцкія падзеі ў нашым рэгіёне. У перадачах „Пад знакам Пагоні” будзем інфармаваць пра найважнейшыя з іх. З мікрафонам пабываем, між іншым, на „Прымацкай бяседзе”, „Спасаўскіх запустах” ды „Вясельнай бяседзе” ў Гайнаўцы.

Жнівень у нашым рэгіёне — час паломніцтваў ды шматлікіх рэлігійных святаў. У нашых перадачах адведаем Супрасль ды Святую Гару Грабарку.

Напрыканцы жніўня пацікавімся падрыхтоўкай да новага школьнага года. Запытаемся таксама пра сітуацыю беларускай адукацыі ў Польшчы.

Усе гэтыя тэмы закранем у перадачах „Пад знакам Пагоні” на Польскім Радыё Беласток на хвалях 99,4 FM, 104,1 FM або 89,4 FM.

Панядзелак 18:45
Аўторак 18:45
Серада 18:45
Чацвер 18:45
Пятніца 18:30
Субота 18:30
Нядзеля 8:30



Калектыў „Ліпшчанэчкі”

# Любіць сваё

Два дзесяткі кіламетраў на захад ад Гародні, на беразе ракі Бобры, распаложаны старажытны гарадок Ліпск. Галоўным яго пунктам з'яўляецца прыкметны з адлегласці паўсотні кіламетраў неагатычны касцёл. Славу будоўлі і цэлай мясціне прыносіць, між іншым, цудатворная ікона Божай Маці Базільянкі і шматлікія жыхары блаславёныя пакутніцы на чале з Марыяннай Бярнацкай.

Ліпск гэта не толькі багатае мінулае, але і пабудаваная на ім сучаснасць. Жыве тут надта працавіты і таленавіты народ, закаханы ў культуру і традыцыі роднай зямлі. Гэтая любоў свядома і натуральна перадаецца тут з пакалення ў пакаленне.

Можна было аб гэтым пераканацца пры нагодзе сарганізаванага ў цэнтры Ліпска летняга „Фэсту з яйкамі”. Мабыць, гэта адзінае месца ў краіне, а можа і ў свеце, дзе ў доўгі пасвялікодны перыяд можна атрымаць найпрыгажэйшае валачобнае ці пагуляць у яйкі. У яечных конкурсах індывідуальна і калектыўна ўдзельнічалі ўсе пакаленні ліпшчан. Ім прыйшлося, між іншым, упрыгожваць сапраўдныя і штучныя яйкі, варыць яечныя стравы, а таксама ўмела карыстацца яйкамі ў спартыўных спаборніцтвах. Усіх спаборнікаў ацэньвала адмысловае журы на чале з вядомай майстрыхай па ўпрыгожванні велікодных яек Эвай Сковыш-Мухай.

Спадарыня Эва прызналася, што ў Ліпску Вялікдзень ніколі не канчаецца. Каляровыя, узорыстыя яйкі, выкананыя батыкава-шпілечным метадам, з'яўляюцца асноўным зарэгістраваным рэгіянальным прадуктам. Яго вытворчасцю займаецца большасць жыхароў рэгіёна, выпускаючы з-пад сваіх рук сотні, калі не тысячы экземпляраў пісанак у год. Адным з турыстычных атракцыёнаў мястэчка з'яўляецца Музей ліпскай пісанкі і традыцыі, наведаць які запрашалі арганізатары і вядучыя яечнае мерапрыемства — працаўнікі мясцовага дома культуры.

Выдзіманачныя цуды былі ўручаны ў якасці ўзнагарод не толькі ўдзельнікам конкурсаў з яйкамі, але таксама ўсім членам музычных калектываў. Свой рэпертуар запрезентавалі тут, між іншым, „Каліна” з Калінова, „Граявяне” з Граева і „Зараніца” з Крынак. Удзельніца апошняга калектыву, а заадно аўтарка гэтага артыкула была таксама запрошана да ўдзелу ў працах журы Фестывалю народнай песні, праведзенага ў рамках яечнай імпрэзы.

Ужо сорак гадоў мастацкія душы ліпскіх майстрых па ўпрыгожванні пісанак даюць волю сваім перажываннем у народным спеве. Закаханыя ў старыя песні, але маладыя душою мясцовыя пенсіянеркі гуртуюцца ў калектыве „Ліпск”. Яго загадчыцы, выдатнай краязнаўцы і фалькларыстцы Барбары Тарасэвіч спаць не дае адсутнасць маладых галасоў. Таму рашылася яна правесці конкурс рэгіянальнай песні. Мэта гэтай ініцыятывы — папулярызацыя роднага фальклору сярод моладзі і дзяцей і магчымае ўключэнне іх у склад калектыву „Ліпск”. Удзел у першым выпуску спявацкага конкурсу прынялі пяць вучаніц мясцовай пачатковай школы. Ад нядаўна спяваюць яны пад кіраўніцтвам спадарыні Барбары ў калектыве „Ліпшчанэчкі”. Маладыя спявачкі выйшлі на сцэну, апранутыя згодна мясцовай традыцыі. На галаве кожнай пявунні красаваўся непаўторны вянок з рознакаляровых лугавых кветак. Выступленні маладых дзяўчынак расхвалявалі і аб'ядналі ў спеве сабраную публіку. Канкурсантка Вікторыя Максімовіч выхавалася на спевах сваёй бабулі. Рыхтавацца да выступлення памагала ёй мама, якая яшчэ помніць некаторыя бабуліны песні. Вікторыя прызналася, што ў народны спеў увайшла дзякуючы пісанкам, якімі займаецца ўжо пяць гадоў.

Дапаўненнем аўтэнтычнасці і натуральнасці яечна-песеннага мерапрыемства былі колішнія вясковыя танцы. Танцорам падыгрывалі Мікалай Байгуз — скрыпач з Нетупы, Анатоль Дарошка — акардэаніст з Ласінян і крынская „Зараніца”. Сабраная публіка хутка падхапіла крокі полек і вальчыкаў. Энергічны ветэран, каліс народны бубнач родам з Дубасьна парваў крынскіх дзяўчат у тройку кракавяка. Абкруціў ён свае танцоркі быццам двадцацігадовы, першы „парэнь на дзярэўні”. У танцы надта выдатна ўключыўся дырэктар ліпскага дома культуры Францішак Бахонка. Ён прызнаўся, што танцавальнаму майстэрству навучыўся яшчэ ў ранняй маладосці, будучы членам фальклорнага калектыву.

Аказваецца, што можна даражыць і ганарыцца сваім, а пры нагодзе добра пагуляць пры сапраўднай, вольнай ад халтуры народнай музыцы. Гэта магчымае толькі ва ўмовах поўнай акцэптацыі і павагі да самога сябе і культурнай спадчыны продкаў, чаго ліпшчанам можна толькі пазайздросціць.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Журы яечных спаборніцтваў

**Валя МЯДЗВЕДЗЬ**

## Куколь

*Вырас у жыце вось куколь*
*і расце ён усё дасюль.*
*Куколь, з жыта нам уцякай,*
*на дзяўчыны не маргай.*

*Я знайшоў у жыце куколь.*
*Куколь, мы сябры з табой.*
*Я так вельмі б хацеў,*
*каб яшчэ ты тут квітнеў.*

*Ты разгляніся вакол:*
*там расце бярозы ствол.*
*Уся зялёная яна.*
*Можа, схоча кукаля?*

*Ах, куколь, куколь, куколь!*
*Не маргай ты навакол!*
*На дзяўчын не спаглядай*
*і нам іх не адбівай!*

## Гады

*Хадзіла я ў траве па пояс,*
*збірала ў жыце васількі,*
*раніцай сонца спатыкала,*
*і гэта не было даўно.*
*І ты, сяброўка, мне скажы,*
*куды спяшаць мае гады?*
*Чаму не хочуць усё яны*
*ніяк тут затрымацца?*
*Хадзіла боса па расе,*
*сніліся прыгожы хлопцы ўсе.*
*А цяпер у хаце я сяджу*
*і ў акно ўсё гляджу.*
*Куды так хуценька, куды,*
*бягуць, бягуць мае гады*
*і чаму не могуць тут яны*
*хаця на крышку затрымацца?*
*Чаму так поўныя віны*
*мае прыгожыя гады?*
*Не буду я тут больш*
*за імі аглядацца.*
*Пайду ў царкоўку пакланіцца*
*і шчыра Богу памаліцца,*
*і зноў вярнуся я сюды,*
*дзе ўсё бягуць мае гады...*
*І буду з імі тут*
*неяк спраўляцца.*

# Іншыя адценні «Басовішча» (2)

Як мы згадвалі ў мінулым выпуску «Нівы», 24 Фестываль музыкі маладой Беларусі «Басовішча» быў асаблівым, таму што ў гэтым годзе выйшаў за чыста музычныя рамкі. Сярод немузычных падзей можна было прыняць удзел, між іншым, у паказе дакументальных фільмаў міжнароднай вядомасці мультымедыйнага мастака Артура Жміеўскага «Дэмакратыі» (сам аўтар, нягледзячы на аб'яву арганізатараў, на жаль, не прыехаў), і дыскусіі па тэме куды ідзе дэмакратыя ў свеце і якімі сродкамі змагацца за яе. Праз урочышча Барык падчас фестывалю правінулася шмат вядомых дзеячаў беларускага свету мастацтва, у тым ліку вялікая група, звязаная не толькі з музыкай, але таксама, напрыклад, з тэатрам.

Два дні фестывалю працавала Пленэрная фотастудыя Адама Панчука, выпускніка факультэта мультымедыйнай камунікацыі Акадэміі мастацтваў у Познані, маючага справу з дакументальнай фатаграфіяй, і маладога фатографа з Беларусі Аляксандра Цехановіча. Абодва шырокафарматным «палароідам» рабілі партрэты ўдзельнікаў «Басовішча». У другі дзень фестывалю здымкі павіслі на спецыяльнай табліцы каля сцэны. Фурор зрабіў пацешны здымак цалуючыхся ў вусны, засунуўшых рукі ў кішэні, фатографа Паўла Грэся, каардынатара мерапрыемства ды члена яе штаба — фатографа і музыкі, лідара музычнага гурту «0-85» Юркі Асенніка. Гэты пацалунак параўноўвалі з праслаўтым пацалуем кіраўнікоў былога савецкага блока Леаніда Брэжнева і Эрыха Хонекера.

— Устанавілі мы на фестывалі мабільную студыю. Ідэя гэтай працы простая: зрабіць партрэты ўдзельнікаў, — растлумачыў «Ніве» Адам Панчук. — Справа ў тым, каб людзі захавалі памяць пра тое, што яны былі тут, хаваючы малюнак у скрыначку, а часам, паглядзеўшы на яго, вярталіся на «Басовішча».

Аляксандр Цехановіч дадаў:

— Дапамагаю Адаму. Я нядаўна ў фатаграфіі. На фестывалі я ў другі раз. Раблю пры нагодзе фотарэпартаж аб жыцці гэтага выпуску фестывалю ад яго пачатку да канца. У мяне выключна цёплыя ўражанні. У Беларусі цяжка, на самой справе немагчыма трапіць на падобны фестываль, з такім кліматам. У нас немагчыма хаця б паглядзець на бел-чырвона-белыя сцягі, як тут.

Як мы ўжо казалі тыдзень таму, два дні фестывалю побач сцэны працягвалася акцыя Партызанскага кангрэса карыкатурыстаў на чале з сусветнай вядомасці мастаком Паўлам Альтхамерам. Сярод запрашатараў быў літаратурны крытык, драматург і левы журналіст Ігар Стокфішэўскі. У размове з «Нівай» ён сказаў:

— Мая цікаўнасць да «Басовішча» вынікае з прамых кантактаў з беларускімі мастакамі. Кангрэс карыкатурыстаў будзе заахвочваць да выяўлення людзьмі самаэкспрэсіі, а па-другое, каб гэтыя самавыяўленні дыялагавалі адзін з адным, каб гэта была размова, якая не палягае на размытасці, але і не на адчужэнні, рысаванні асобна, а каб зрабіць разам.

На другі дзень, паміж паказамі фільмаў «Дэмакратыі», мадэраваў ён дыскусіі з удзельнікамі фестывалю. «Дэмакратыі» гэта кароткія дакументы, своеасаблівыя паведамленні аб ходзе грамадскіх дэманстрацый, якія Артур Жміеўскі назіраў у розных частках свету. Адна з удзельніц паказа падзялілася сваімі думкамі:

— Гэтыя фільмы паказваюць розныя спосабы размовы аб дэмакратыі, але і пра спосабы дэманстрацыі. Усхваляваў мяне фільм пра жанчын пратэстуючых у Сектары Газа, таму што там была гаворка аб смерці за ідэю, чаго ў іншых дэманстрацыях, еўрапейскіх, са Страсбурга ці Варшавы, не было. Там сітуацыя нуль-адзін. Альбо мы пераможам, альбо яны. Тут, у Еўропе, мы можам штосьць пратэстам змяніць, паўплываць на змену закону, прававога парадку. Там — не. Кадры ў гэтых фільмах неабмежаваны, каб толькі нейкі ўрывак сітуацыі паказаць, каб штосьці было відаць, а чагосьці — не.


Алесь Малчанаў (пляскае перад сцэнай)



Фотаатэльэ: Панчук і Цехановіч





Ігар Стокфішэўскі расказваў:

— Грамадзяне, якія практыкуюць грамадскія пратэсты, практыкуюць дэмакратыю. Гэтых дэмакратый шмат, але мы жывем на кантыненце, дзе здаецца, што дэмакратыя ёсць адна.

На самой справе, гэтыя фільмы паказваюць як змяніць рэальнасць. Гэта не толькі вулічныя пратэсты, не толькі ваеннага характару. Гэта запіс рознага тыпу сучаснай сацыяльнай барацьбы за вызваленне, якія маюць адзін асноўны параметр: іх суб'ектамі з'яўляюцца грамадзяне і грамадзянкі. Жміеўскі гэтым цыклам хацеў галерэі, у якія яго запрашалі, заразіць такой вулічнай палітыкай. Гэта спроба паказаць свету сацыяльную барацьбу ад уваходу і выхаду, якой мы не ў змозе ўбачыць у сродках масавай інфармацыі. Ідэя заключаецца ў стварэнні шырокай сеткі мастакоў па ўсім свеце, якія працягваюць здымаць палітычныя падзеі, акцыі пратэсту і г.д., каб гэта была свайго роду мова, на якой таксама прамаўляе мастацтва.

Рафал Жвірэк, аператар фільмаў Артура Жміеўскага:

— Мы да гэтага часу зрабілі 36 фільмаў. На дадзены момант серыя «Дэмакратыі» часова прыпынена. Гэта паказвае, што магчымае палітычнае суб'ектаванне грамадзян.

На сёлетнім «Басовішчы» мы прыкмецілі вялікую групу прадстаўнікоў беларускага тэатра. Гурт «Ілі-Ілі», які пачаў музычныя паказы ў гэтым годзе і выйграў беларускі адбор, уключае ў сябе акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску. Прысутная ў першы раз у гэтым годзе на «Басовішчы» Марына Дашук, начальніца Мінскага незалежнага «Карняг-тэатра» памятае хлопцаў, якімі яны былі некалькі гадоў таму:

— Пачалі іграць, калі былі студэнтамі тэатральнай школы ў Мінску. Спачатку ігралі дома, у інтэрнатах.

Членаў каманды мы знайшлі за некалькі гадзін да канцэрта на тэрыторыі лагера, дзе яны жылі побач сваіх шматлікіх прыхільнікаў. Яны пагадзіліся:

— Мы вельмі рады, што выйгралі адбор у Мінску і маглі прыехаць сюды. Гэта ўнікальны фестываль. Так атрымалася, што мы падрыхтавалі ўпершыню поўнасцю беларускамоўную праграму.

На ўрочышчы мы ўбачылі Алеся Малчанава, аднаго з найвялікшых акцёраў Беларусі, таксама з тэатра імя Янкі Купалы:

— Я тут упершыню. Мне падабаецца, што мы без напругі можам пагаварыць і, перш за ўсё паслухаць музыку, калі падабаецца, і калі не — іці сабе ў лес.

Згодна з аб'явай прысутнай на фестывалі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур, дырэктаркі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, Алесь Малчанаў прыме ўдзел у тэатральным праекце «Антыгона» (паводле Сафокла і сапраўдных, гістарычных і трагічных польска-беларускіх гісторый), які павінен быць прадстаўлены ў верасні, у асноўным у Крынках, а потым у Беластоку.

«Басовішча-2013» вылучаецца таксама тым, што на сцэне з'явілася капэла, якая прэзентуе музыку іншай нацыянальнасці Падляшша чым беларуская (не ўлічваючы польскай) — яўрэйскую. Гэта Клезмерскі аркестр Сейненскага тэатра. Яе музыка Міхал Манюшка перад выхадам на сцэну не хаваў свайго страху перад выступам і аўдыторыяй прывыклай да іншага тыпу музыкі. Сейненскія клезмеры, аднак, былі вельмі цёпла прывітаны, і ён сам кінуў са сцэны:

— Мы ўсе чакаем свабоднай Беларусі! Мы тут, у Гарадку, і там, у Мінску і Гродне. Мазаль тов!

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Новыя ўлады агратурыстычнага таварыства

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) актыўна дзейнічае Агратурыстычнае таварыства „Белавежская пушча". Зараз працуе яно ў новым складзе.

Сход выбраў новае праўленне: Галіна Вяжхоўская (старшыня), Збігнеў Беглюк (намеснік старшыні), Галіна Панькоўская (сакратар), Уладзімір Заброцкі (скарбнік) ды Ірэна Ігнацюк і Яўген Астапчук — члены праўлення. Рэвізійную камісію ўзначаліла Галіна Леўша. Яе членамі былі выбраны Кароль Якімюк і Ліля Радзіванюк.

Нараўчанскае Агратурыстычнае таварыства „БП" налічвае трыццаць членаў-кватэранаймальнікаў. Гэта даволі шмат. Яны супрацоўнічаюць паміж сабою. Выдалі другі — актуальны — каляровы даведнік аб сваіх кватэрах з фотаздымкамі і каардынатамі.

Члены „БП" штогод удзельнічаюць у турыстычных кірмашах у Беластоку і Варшаве. Бяруць з сабой палаткі, візітныя картачкі ды спажывецкія прадукты і напіткі са сваіх агратурыстычных гаспадарак, між іншым, жытні (аржаны) хлеб з вясковай печы і хлебабулачныя вырабы, вяндліну, печаныя кумпякі, маласольныя агуркі, мёд, тоўстую саланіну салёную ў бочцы, скваркі з тлушчам у цэбрыках, бігас, бульбяныя аладкі, сыры, хлебную гарэлку, настойкі на зёлках ды халодны хлебны квас. Усё гэта дзеля таго, каб заахвоціць да прыезду да сябе на агракватэру турыстаў. У Варшаву ездзілі з фальклорнымі калектывамі.

17 жніўня гэтага года Агратурыстычнае таварыства „БП" запрашае ўсіх ахвотных жыхароў Нараўчанскай гміны ды турыстаў супольна паплаваць на байдарках па прыгожай рацэ Нараўцы. Прымаюцца запісы.

## Новая выстаўка ў галерэі

Напрыканцы ліпеня гэтага года ў Гміннай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адкрылі выстаўку з працамі 14 удзельнікаў сёлетняга XIII Агульнапольскага мастацка-разьбярскага пленэру, які адбыўся на пераломе мая і чэрвеня ў Старым Ляўкове.

На выстаўцы апынуліся лепшыя карціны мастакоў з сямі гарадоў Польшчы (пра пленэр я пісаў у «Ніве» № 25 ад 23 чэрвеня г.г.). Яны рабілі экскізы і малявалі перш-наперш самыя прыгожыя мясціны Нараўчанскай гміны, між іншым, дзікасць прыроды ў лясах Белавежскай пушчы, ціхую завілістую раку Нараўку і лугі над ёю з летнімі кветкамі ды блакітнае Семяноўскае возера з прыбярэжным востравам.

Іх захаплялі таксама арыгінальныя старэнькія драўляныя хаты, акаймаваныя квітнеючымі зараснікамі майскага бэзу і чаромхі ды цікавая архітэктура цэркваў пасярод старых дрэў. А тэмы керамічных скульптур — самыя розныя.

Новую выстаўку можна агледзець ад серады да пятніцы ад гадзіны 12 да 20 ды ў суботу і ў нядзелю — ад 10 да 18. Запрашаем.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Нічога не выдумвалі!

**Рэдактаркі „Галерэі Тамары” — Эва Авярчук і Юліта Грыка, разам са спадарынямі Ганнай Кандрацюк і Уляй Шубздай, паехалі ў Меляшкі, што ў Гарадоцкай гміне. Там сустрэліся з Валянцінай Дарашкевіч. У мінулым спадарыня Валя ўзначальвала Гурток вясковых гаспадынь і кіравала беларускім тэатрам. Іх талент і энтузіязм дацаніла Тамара Саланевіч, якая запрасіла жанчын да сваіх фільмаў. Пані Валя іграла ў „Нараўчанскай баладзе” і „Ахвяраванні”.**

— А так напраўду то мы нічога не ігралі, не выдумвалі, — кажа. — Мы ўсё рабілі так як у нас у вёсцы. І ўсё было добра... Меляшкоўскія гаспадыні заспявалі па-колішняму жніўныя песні да „Нараўчанскай балады” і жартавалі, каб было лягчэй працаваць пры спякоце.

— А што пра акцёрства гаварылі ў вёсцы? — пытаем. — Ці вам не зайздросцілі?

— Нічога дрэннага не гаварылі. Мы самі моцна стараліся. Перад ад’ездам у Нараўку трэба было парабіць усё ў хаце, наварыць, каб ніхто праз гэтае акцёрства не галадаў...

На месцы мы даведаліся, што фільмавая чараўніца — гэта бабуля Вера Лявіцкая з Меляшкоў. На патрэбу фільма грымёр яе раскудлаціў і начапіў барадаўку!

— Вера была непрыкметнай і ціхмянай жанчынай. У вёсцы яе паважалі, бо яна дапамагала людзям, — адзначае пані Валя.

Пасля мы разам пайшлі на вёску, дзе стаіць крыж размаляваны ўдзельнікамі I Сустрэч „Зоркі”. Гэта было васемнаццаць гадоў таму назад. Тады мы яшчэ не ведалі што „акцёркі” Тамары Саланевіч дзень і ноч былі разам з намі. Яны ўзялі нашых карэспандэнтаў да сябе на начлег, кармілі і дапамагалі здзейсніць абрад асвячэння крыжа. Калі мы вярталіся дамоў, пані Валя паказала блакітную хатку, дзе Тамара Саланевіч здымала славутае „Ахвяраванне”. У фільме, разам з акцёрамі, выступілі людзі з Меляшкоў.

**„Галерэя Тамары”**





## Вершы Віктара Шведа

### Урок музыкі

— Скажы ты мне шчыра, Лёня,
Мой дарагі сынок,
Як прайшоў табе сёння
Музыкі першы ўрок?

— Хіба іграў я смела
І сораму не прынёс,
Калі настаўніца мела
Поўныя вочы слёз.

### Гадзіннік з зязюляй

Запыталіся Марціна:
— Ці направілі гадзіннік?
— Пакуль яшчэ не ўдалося,
Хоць зязюля надта просіць.

І яна без перапынку
Вылузаецца са скрынкі.
Пакуль што яна пытае,
Які час цяпер мы маем.

## Адкуль наш загаловак?

Наша газета ў асноўным прысвечана памяці Тамары Саланевіч. У час працы рэдакцыі ўзнікла шмат партрэтаў рэжысёркі, таму такі загаловак газеты. У ёй знойдзеце размовы з героямі фільмаў Тамары Саланевіч і іх успаміны аб рэжысёрцы. Мы напісалі таксама пра месцы, звязаныя з яе жыццём і творчасцю. Знаёмства з легендай Тамары Саланевіч стала для нас новым і каштоўным досведам. Мы працавалі ў згоднай, вясёлай кампаніі, а Міхась проста сыпаў жарты як з рукава. Наш энтузіязм быў неўтаймаваны. Праца ў рэдакцыі пачыналася на практыцы а палове сёмай — на дзве гадзіны раней чым прадбачвала праграма. Нашай «Галерэяй Тамары» кіравала Наталля Васько, а ўсе астатнія журналісты адчувалі сябе яе намеснікамі і партнёрамі. На працягу тыдня мы моцна пасябравалі і ведаем, што нашае сяброўства будзе мець свой працяг на Сустрэчах «Зоркі». І, думаем, што не толькі...

***Наталля Васько — галоўны рэдактар***
***Эва Авярчук, Міхась Бабік, Дамініка Благушэўская, Юліта Грыка, Зузанна Кардзюкевіч, Адам Сцепанюк***



Тамара Саланевіч вачыма Зузі Кардзюкевіч



# Цяпер хочуць,каб усё было хутка…

„Галерэя Тамары” размаўляе з **Барысам Казлоўскім**, гаспадаром аргатурыстычнага пансіяната „Бора-Здруй” у Новым Ляўкове.

**ГТ:** — Тамара Саланевіч прапанавала зняць для фільма Вашае вяселле з Людмілай. Вы раней ведалі рэжысёрку?

**Барыс Казлоўскі:** — Я чуў аб Тамары. Але ў нас не было кантактаў. Мы сустрэліся ў яе хаце ў Нараўцы.

**ГТ:** — ***Як выглядала яе хата?***

**БК:** — Мы сядзелі ў вялікім пакоі, памятаю, там былі вялікія *вазонкі.*

**ГТ:** — ***Пра што гаварылі?***

**БК:** — Як мае выглядаць нашае вяселле. Яна хацела, каб людзі ехалі ў царкву на вазах, запрэжаных у коней. Каб было прыданне і ўсе вясельныя абрады, напрыклад, „выкуплянне месца”. У першы дзень вяселле спраўлялі ў хаце маладой, на другі дзень перяязджалі да маладога і там гулялі дзень-другі…

**ГТ:** — ***Вам падабалася прапанова Тамары Саланевіч?***

**БК:** — Мы цэлы месяц шукалі белых коней, а калі не атрымалася, здаліся…



Тэатр з Мялешкоў ставіць „Вяселле”. Першая справа Валя Дарашкевіч

**ГТ:** — ***А як выглядала Вашае вяселле?***

**БК:** — У Ляўкове мы зрабілі адправіны і я са старшым сватам і старшай дружкай паехалі на машыне ў царкву ў Дубіны. Вясельныя госці дабіраліся на прычэпе, які цягнуў трактар. І моцна спазніліся на шлюб. Цёмна зрабілася. Многія госці маладой сталі думаць: „Ці не раздумаўся малады?”. Тады вянчаліся два разы: спачатку трэба было запісацца ў ЗАГСе ў Гайнаўцы, а пасля мы павянчаліся ў царкве ў Дубінах.

**ГТ:** — ***Ці Вашае вяселле было традыцыйным?***

**БК:** — У нас не было прыдання, першы і другі дзень вяселля мы спраўлялі ў хаце маладой у Пасталове. На другі дзень там зрабілі паправіны. Так што ў нас было крыху пастарому і крыху па-новаму.

**ГТ:** — Зараз у Вашым пансіянаце адбываюцца многія вяселлі. Ці Вам больш падабаецца як гуляюць цяпер, ці як гулялі даўней?

**БК:** — Цяпер усё хочуць хутка, а нават час хутчэй плыве. А калісь вяселле спраўлялі цэлы тыдзень. Не было самаходаў, людзі ехалі і вярталіся konьмі. Ніхто не спяшаўся. Цяпер зробяць начную патанцоўку і ўсё. Інакш выглядае гасціна. Калісь то нават прыправаў не было. Ставілі на стол мяса, бульбу, капусту, гуркі… А цяпер паставяць сто „вышуканых” страў, а як хочаш штось з’есці, то няма чаго.

**ГТ:** — ***Дзякуем за размову!***

**БК:** — Дзякую!

# Дзень раней мы ўзялі шлюб у ЗАГСе, таму я думала, што ён не раздумаўся



Фота Ганны Кандрацюк

**Рэдакцыя „Галерэі Тамары” размаўляе з Людмілай Казлоўскай, гаспадыняй агратурыстычнага пансіянята „Бора-Здруй” у Новым Ляўкове.**

**ГТ:** — ***Тамара Саланевіч хацела здымаць Вашае вяселле для свайго фільма? Ці памятаеце як гэта адбывалася?***

**Людміла Казлоўская:** — Калі яна прыехала да нас з такой прапановай, у нас былі ўжо свае планы. Аставаўся месяц да вяселля. Яна хацела, каб мы паехалі да вянца возам на белых конях. Мы хадзілі па суседзях і нідзе не знайшлі такіх коней. Спачатку мы мелі жаданне, каб нашае вяселле было знятае для фільма, але атрымалася інакш. Шкада. Проста не хапіла часу, каб усё сарганізаваць.

**ГТ:** — ***Ці Вы раней ведалі Тамару Саланевіч?***

**ЛК:** — Асабіста мы не былі знаёмыя, але я многа чула добрага пра яе. Таму, калі яна звярнулася да нас з прапановай, мы адчувалі сябе вылучанымі сярод іншых…

**ГТ:** — ***А як выглядала Вашае вяселле? На чым Вы ехалі да шлюбу?***

**ЛК:** — Такое смешнае крыху было. Паміж нашымі вёскамі больш за дваццаць кіламетраў, а мы вянчаліся ў Дубінах. Вяселле мужа ехала з Ляўкова на *асінобусе*, які цягнуў трактар. Яны моцна спазніліся. Я выглядала і нервавалася. Мае госці таксама нерваваліся, яны чуць не раз’ехаліся… Дзень раней у нас быў шлюб у ЗАГСе, таму я думала, што ён не раздумаўся.

**ГТ:** — ***Шмат у чым Вашае вяселле адрознівалася ад сучасных вяселляў?***

**ЛК:** — Калісь людзі прыязджалі да хаты маладых, сядалі за стол, выпівалі, спявалі, гулялі. Сёння гасцюююць і гуляюць у адным месцы.

**ГТ:** — ***Дзякуем за размову.***

**ЛК:** — Дзякую.

**„Галерэя Тамары”**



## Польска-беларуская крыжаванка № 31

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26:**

Беларус, пажар, ха, Ксеня, слонік, блакіт, рыс, дах, ясны. Ар, ах, баба, брат, ежа, слых, клас, ар, сок, яр, фенікс, ніт, на, сваяк, дых.

Узнагароду, майку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйграла **Магда Хвашчэўская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Гасцінныя Бандары



«Калінка»



Фэст прыцягнуў шматлікую публіку

— Няглёдзячы на горшае надвор'е, чым было ў мінулых гадах, і так на нашай XIII «Бандароўскай гасцёўні» сабралася многа людзей. Думаю, што пад пяцьсот чалавек будзе, — заявіла „Ніве" солтыс Бандароў Марыя Грыка. Мясцовыя, якія пастаянна прымаюць удзел у фэсце, гавораць, што дождж спалохаў нерашучых, а заўсёднікі і так прыехалі на беларускае мерапрыемства, якое 20 ліпеня было арганізавана Беларускім грамадска-культурным таварыствам, бурмістрам Міхалова, Гмінным асяродкам культуры ў Міхалове і вясковым актывам Бандароў. Калі мацней засвяціла сонейка, а пасля і прыціх вецер, надвор'е зрабілася такім, якім павінна быць пры канцы летняга дня. Жыхары і выхадцы з суседніх Рыбакоў патлумачылі, што бандароўскі фэст, гэта прадаўжэнне беларускіх фэстаў, якія раней рэгулярна ладзіліся побач іх сяла.

— Я быў яшчэ малым хлапчуком, калі каля нашых Рыбакоў, побач Альшыны, нашыя вяскоўцы разам з БГКТ ладзілі беларускія фэсты, — сказаў Лявон Хлябіч, 1956 года нараджэння, які зараз жыве ў Нараўцы. — Многа жыхароў Рыбакоў дружна ангажавалася ў арганізаванне беларускіх фэстаў. У мінулым не было такіх умоў як сёння, але была вялікая ахвота прапагандаваць беларускую культуру. Памятаю, як у нас выступала «Лявоніха», а Ян Крупа абедаў і начаваў у нашай хаце.

— Людзі вельмі хацелі паглядзець нашыя калектывы і слухаць беларускія песні. Любоў да беларускага засталася, — сказаў Мікола Хлябіч з Рыбакоў.

— Выдатная большасць жыхароў нашай гміны лічыць сябе беларусамі. Адны свядомыя свайго беларускага паходжання, іншыя сямейнымі сувязямі звязаны з беларусамі і таму ў Бандарах так многа людзей на «Бандароўскай гасцёўні». Калі б нават мы запрасілі выступіць самыя выдатныя польскія фальклорныя калектывы, не сабралася б так многа людзей, бо мясцовыя намнога больш эмацыянальна ўспрымаюць беларускія песні, якія сёння гучаць са сцэны, — заявіў бурмістр Міхалова Марк Назарка.

Удзельнікі фэсту мелі магчымасць купіць рукадзелле, здаровае харчаванне, а дзеткі — ласункі і цацкі. Наймалодшыя карысталіся гульнявым гарадком з трамплінам і вялікім надзіманым замкам.

— Мы ладзім «Бандароўскую гасцёўню», каб маладыя не забылі нашую беларускую культуру, мову, каб нашае грамадства магло паслухаць родныя песні. На стале перад сцэнай знаходзяцца хлеб і каравай — сімвалы нашай гасціннасці. У палатцы паказваем вясковую хату, а канкрэтна колішняе рукадзелле, якое ўпрыгожвала дамы і выкарыстоўвалася вяскоўцамі ў штодзённым жыцці. Тканыя, вышываныя вырабы, колішнія прылады збіралі мы ў Бандарах і суседніх вёсках. Я захоўваю іх у сваім доме, але ёсць задума, каб арганізаваць пастаянную выстаўку, з якой павінны знаёміцца дзеткі і моладзь. Зараз мала дзетак у самой вёсцы Бандары, але ў квартале жылых блокаў іх яшчэ многа. У Бандарах пераважна жывуць старэйшыя асобы, але пустуючых хат мала. Вяртаюцца да нас выхадцы з вёскі, якія, перайшоўшы на пенсію, пакінулі ў горадзе свае кватэры дзецям. Іншыя выхадцы рамантуюць свае хаты і прыязджаюць на адпачынак, — сказала солтыс Марыя Грыка, якая адкрыла фэст разам з бурмістрам Міхалова Маркам Назаркам і старшынёй БГКТ Янам Сычэўскім.

Няглёдзячы на горшае надвор'е, чым было ў мінулых гадах, і так на нашай XIII «Бандароўскай гасцёўні» сабралася многа людзей



Мерапрыемства ўдастоілі консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Аляксандр Суvoраў, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуард Швайко і святары — айцец Аляксандр Алексяюк з праваслаўнага прыхода ў Тапалянах і айцец Славамір Тафілюк з прыхода ў Юшковым Грудзе.

Бурмістр Міхалова і старшыня БГКТ пахвалілі солтыс Бандароў Марыю Грыку і жыхароў вёскі за актыўнасць як у галіне культуры, так і ў іншых вясковых ініцыятывах. На заангажаванне рукадзельнікаў, якія на фэсце прадавалі свае вырабы, звярнула ўвагу дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Міхалове Альжбета Паліноўская.

— Я асабліва цаню гмінныя ініцыятывы, заяўленыя непасрэдна ад насельніцтва. Многа прапаноў выходзіць ад спадарыні солтыс і жыхароў Бандароў. На іх прыкладзе відаць, што, маючы цікавыя задумы і здабываючы сродкі, можна многа рабіць у карысць мясцовага грамадства, — заявіў бурмістр Марк Назарка. — Збудавалі мы вялікую сцэну ў Бандарах, неабходную для культурных мерапрыемстваў. Восенню, з прыцягненнем еўрасаюзных сродкаў, распачнем вялікія інвестыцыі побач Семяноўскага заліва. Прадбачваем разбудову пляжа і спадарожнай яму турыстычнай інфраструктуры. Хочам прыцягнуць сюды турыстаў і запрапанаваць ім атракцыёны на вадзе і побач яе ды цішыню далей ад вадасховішча. Цяпер, калі людзі жывуць у пастаяннай спешцы, турысту патрэбны нестандартны адпачынак, напрыклад, самому зжаць жыта, паспрабаваць змалоць яго і ўдзельнічаць пры выпечцы хлеба.

Бурмістр выказаў задавальненне апошнім рашэннем управы Сейміка Падляшскага ваяводства аб будове аэрадрома побач Тапалянаў Міхалоўскай гміны.

— Мы рады планаванай будове аэрадрома. Такім чынам створацца новыя месцы працы ў гміне, якія нам так патрэбныя. Калі б распачалася будова аэрадрома ў Тапалянах, мы плануем хадайнічаць аб адкрыцці ў нас падзоны Сувальскай эканамічнай зоны, дзе прадпрымальнікі маглі б арганізаваць новыя месцы работы, якімі маглі б пакарыстацца нашыя жыхары. Падаткі ад аэрадрома нам менш важныя, бо атрымліваем вялікія падаткі ад Газакампрэсарнай станцыі ў Кандратках, якія састаўляюць ажно палову нашых уласных даходаў і трэцюю частку ад усяго гміннага бюджэту, — сказаў бурмістр Марк Назарка.

Бурмістр выявіў таксама задавальненне тым, што дзеткі з Міхалоўскай гміны так ахвотна сталі вучыцца беларускай мове. На ўроках маюць яны магчымасць знаёміцца з роднай мовай, культурай і мясцовымі традыцыямі. Беларускай мове ў падставовай школе і гімназіі вучыцца каля 120 дзетак і моладзі, а школа на гэтую мэту атрымлівае субвенцыю Міністэрства адукацыі.

Першымі на сцэне выступілі маладыя салісты з калектыву «Спявай душа», якім займаецца Юрый Астапчук. Перад публікай удала запрэзентаваліся таксама калектывы «Калінка» і «Сказка» з Беластока, «Рэха пушчы» з Гайнаўкі, «Падляшская капэла» з Сямятыч, «Ас» з Беластока, «Куранты» з Бельска-Падляшскага і калектыў «Купалінка» з Мінска, які падрыхтаваў асабліва багатую праграму. Хаця мерапрыемства арганізавалася ў галоўным на сродкі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі і пры дапамозе Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы, то важным была таксама арганізацыйная дапамога мясцовага насельніцтва, хаця б пажарнікаў, якія наглядалі за парадкам, кіравалі дарожным рухам і давалі інфармацыю прыезджым як даехаць або дайсці да вадаёма.

Семяноўскае вадасховішча, непадалёк ад якога была арганізавана «Бандароўская гасцёўня» — вялікі атракцыён для аматараў плавання, рыбалкі і водных спортаў. Аднак для пажылых людзей вадаём — прычына іх жыццёвай трагедыі, калі трэба было ім пакінуць свае гаспадаркі, поле і перасяліцца ў іншае месца. Адны пераехалі ў Беласток, іншыя пабудаваліся ў Новай Луцэ, астатнія пайшлі жыць у панельныя трохпавярховыя блокі, узведзеныя побач Бандароў (частка апошніх цяпер шкадуе аб сваім выбары).

Многія жыхары блокавых кватэр, якія 20 ліпеня масава выйшлі паслухаць беларускія песні, перасяліліся сюды яшчэ тады, калі мелі дастатковую колькасць сіл, каб гаспадарыць на палях, якія пасля заліла вада.

— Я толькі ад продажу бульбы зарабіў столькі грошай, што мог бы трактар купіць. Усю маю гаспадарку заліла вада, а мне прыйшлося дажываць у блоку. Калі б ведаў, як складана будзе жыць у шматкватэрным блоку, лепш пабудаваўся б у Новай Луцэ або ў іншым месцы. Зараз вялікая кватрплата і мала грошай застаецца мне на іншыя патрэбы, — заявіў Ян Пакутнік.

Турысты, што адпачывалі на вадасховішчы, таксама прыбылі на беларускі фэст, але былі яны ў выдатнай меншасці. «Беларуская гасцёўня» была перадусім вялікім беларускім святам мясцовага насельніцтва.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Санктуарый на граніцы

***Слоўнік Каралеўства Польскага* з 1880 года пісаў пра Гадышэва, што гэта вёска мужыцкая, у якой 51 драўляны дым, з чаго 48 крытых саламянай страхой, а тры гонтай: дзве царкоўныя хаты і карчма.**

Суседства карчмы і царквы Зыгмунт Глогер тлумачыў так: „W czasach gdy kościoły były rzadko po kraju rozsiane, ludność, przybywająca w dnie świąteczne zdaleka, musiała mieć przy kościele dach gościnny na popas, sami więc proboszcze starali się o to, aby w pobliżu świątyni była obszerna gospoda”.

Гадышэва налічвала тады 247 асоб, у тым ліку 34 католікаў і 9 жыдоў. У вёсцы працавала дзяржаўная школа, была царква ды капліца з крынічкай на граніцы Царства з Каралеўствам. Дзесяць гадоў раней, разам з вёскай Ёські складала уніяцкі прыход з 421 душой. „Драўляная царква (была ўжо ў 1562 годзе), пабудаваная ў 1773 годзе захадам айца Антона Баньукоўскага, рамантаваная ў 1843 годзе за казённы кошт з абразам Маці Божай Гадышэўскай, цудадзейным і наведваным шматлікімі навакольнымі паломнікамі, асабліва на Тройцу да 1873 года, калі яна пастановай улады перайшла на праваслаўны абрад. Цяпер, у 1880 годзе, на месцы колішняй царквы пабудавана за кошт казны, якая прызначыла на яе 21 тысячу рублёў, новую. Мураваная царква ва ўсходнім стылі з вежай спераду, крытая бляхай, пасвечаная 8 мая 1881 года Лявонціем, епіскапам холмска-варшаўскім. Людзі абрабляюць зямлю і вырабляюць бароны на гандаль. У 1569 годзе сяляне абраблялі 34 валокі зямлі (каля 570 гектараў). У пачатку XVII ст. з прычыны прамернага прыгнёту з боку арандатара Браньскага старadства, сяляне Гадышэва і Ёськаў падалі скаргу да вышэйшых улад. Прысланыя каралеўскія камісары ўстанавілі новыя аплаты. З моцы рашэння караля Уладзіслава IV сяляне былі абавязаны да адробку чыншу, дзвюх бочак жыта і дзесяці дзён паншчыны ды аднаго дня талакі. Да таго ж былі яны абавязаны вывезці дзве фуры дроў з пушчы і завезці чатыры вазы дворскага збожжа на „бераг” ад кожнай валокі. Апрача гэтага мелі абавязак старажавання ды павінны былі дастаўляць акрэсленую колькасць яек, курэй і гусей, кватараваць войска, ладзіць масты ды вазіць драўніну для дворскіх збудаванняў”. У 1820 годзе ў вёсцы было 44 гаспадароў, а ў 1827 годзе было там 43 хаты, у якіх пражывала 318 жыхароў.

У бабінцы гадышэўскага касцёла вісіць кароткая гісторыя санктуарыя, якая інфармуе пад 1866 годам: „Kilka razy do roku lud po kilkadziesiąt tysięcy zbiera się na odpusty, szczególnie Rusini z grodzieńskiej guberni i Mazurzy, Kurpie z Myszynieckiej i Ostrołęckiej puszczy, tudzież od Kolna, Nowogroda, a nawet z Prus Wschodnich, a także z województwa podlaskiego od Sokołowa i Łosic. Odpusty bywały na polskie i ruskie Zielone Święta po 5 dni trwające. Księży przybywało na odpust do 50...”.

У красавіку 1905 года цар Мікалай II выдаў указ, які даваў некаторую свабоду грамадзянам Расійскай Імперыі, у тым ліку даваў свабоду выбару рэлігіі. Яшчэ ў тым жа годзе 137 жыхароў Гадышэва прыняло каталіцкі абрад. У 1915 годзе праваслаўныя падаліся ў бежанства, забіраючы з сабою царкоўныя званы і цудадзейную ікону Багародзіцы, якая трапіла ў Палтаўскую губерню, у вёску Ерамееўка... Інфармацыя ў бабінцы: „Dzięki Dominikowi Zaniewskiemu, który odkrył miejsce jego [obrazu] pobytu, rozpoczęto starania o powrót do Hodyszewa”.

Пасля Першай сусветнай вайны месца ранейшага праваслаўнага прыхода ў Гадышэве займае каталіцкая парафія. Партал Ломжынскай дыяцэзіі: „Parafia rzymskokatolicka pw. Wniebowzięcia NMP istnieje w Hodyszewie od zakończenia I wojny światowej. Do Unii Brzeskiej w 1596 r. istniała w Hodyszewie parafia prawosławna, która następnie weszła w skład kościoła greckokatolickiego. Po kasacie Unii w 1875 r. ponownie zamieszkał tam duchowny prawosławny. W historii parafii istniało kilka świątyń drewnianych, z których ostatnią przeniesiono w 1932 r. do „Krynicy”. W jej wnętrzu znajduje się źródełko. Obecny kościół murowany pw. Wniebowzięcia NMP zbudowany w latach 1933-1975 staraniem proboszczów: ks. Marcjana Dąbrowskiego, który budowę, rozpoczął, ks. Edwarda Polaka, który budowę, kontynuował i ks. Bolesława Garbowskiego, który budowę ukończył. W ołtarzu głównym znajduje się czczony przez wiernych cudowny obraz Matki Boskiej Hodyszewskiej z XVII w., który znajdował się w poprzednich świątyniach drewnianych”.





Сербскі і ізраільскі сцягі

Менавіта гэтая ікона стала стымулам далейшага ходу падзей у новай парафіі. У выніку польска-савецкага пагаднення пра вяртанне культурных каштоўнасцей, ікона ў 1926 годзе вяртаецца ў Польшчу, у варшаўскі праваслаўны сабор. Касцельныя ўлады выхадайнічалі ў прэзідэнта Масціцкага перадачу гэтай іконы ў Гадышэва. У канцы мая 1928 года абраз урачыста перавозіцца чыгункай на станцыю ў Шэпятове, а адтуль з вялікім шэсцем на ягонае ранейшае месца, у ранейшую царкву, у якой цяпер адбываюцца набажэнствы паводле каталіцкага абраду. Абраз суправаджаюць дзесяткі тысяч вернікаў. Гэтая мнагалюдная падзея наводзіць касцельным уладам думку пра большае ўшанаванне цудадзейнай іконы, напісанай на драўніне каля 1630 года: дзеля гэтага патрэбны большы храм. Ранейшы храм, узведзены царскімі ўладамі для невялікай абшчыны вернікаў, замалы для аграмаднай колькасці навакольных каталіцкіх пілігрымаў.

Новы храм праектуе славуты архітэктар Аскар Сасноўскі, той сам, які задумаў знакавы для Беластока касцёл святога Роха. Новы касцёл, запраектаваны на плане кола дыяметрам у дваццаць метраў, мае аднаразова памясціць тры тысячы вернікаў; а ў парафіі іх толькі каля паўтысячы... Згаданы ксёндз Дамброўскі заказвае звыш пяцідзесяці тысяч копій цудоўнай іконы, якія па бліжэйшым і далейшым наваколлі прадаюць найбольш заангажаваныя парафіяне. Паступаюць грошы на агромнае мерапрыемства. Парафіяне ўносяць свой уклад працай, між іншым дават... дозам цэглаў з адлеглай у дваццаці кіламетрах шэпятоўскай цагельні; жалезнякамі па грунтовай дарозе. З чыгуначнай станцыі ў Шэпятове трэба давозіць таксама цэмент, вапну, жалезныя элементы, бляху... Паступаюць ахвяраванні званку, м.інш. сто злотаў ад Аляксандры Пілсудскай...

Да Другой сусветнай вайны ўдалося ўзвесці сцены і каркас купала. Ваенныя дзеянні ўнеслі шмат знішчэнняў, але не парушылі яны канструкцыі храма. Будова прадаўжалася і ў маі 1949 года новы касцёл быў урачыста пасвечаны. Але пайшла чутка, што свецкія ўлады хочуць вярнуць набажэнствы ў стары касцёл (былую царкву), а новае збудаванне прызначыць на культурна-асветны цэнтр. Касцельныя ўлады рашылі неадкладна знесці былую царкву. Але ўзнікла чарговая праблема: чыноўнікі прыгадалі, што царква будавалася за царскія грошы, і рашылі рэквізаваць цэглы ад яе зносу... Аднак побач быў падмурак, на якім раней ксёндз Дамброўскі думаў пабудаваць млын, які б зарабляў грошы на будаваны касцёл — на тым падмурку быў цяпер пабудаваны са старых цэглаў парафіяльны дом, а пазней плябанія...

Гадышэўскі касцёл уражвае сваёй велічу. І так папраўдзе ён напаўняецца толькі некалькі разоў у год. Аздоблены ён надта сціпленька. На купале кругавы надпіс: „Matko Boża Hodyszewska rządź nami, opiekuj się nami, błogosław nam”. Зараз на ўнутраных сценах касцёла вісяць розныя дзяржаўныя сцягі. Найбольш кідаюцца ў вочы сцягі з шасціканцовай ізраільскай зоркай і двухгаловым сербскім арлом. Магчыма, што гэта такая спецыфічная форма ўшанавання неардынарнага канфесійнага мінулага Гадышэва...

Капліца на Крыніцы пабудавана на сапраўднай крыніцы, з якой струіцца вадзічка, ад яе адыходзіць ручаёк, над якім зараз пабудаваны два каменныя масткі, побач якіх вымашчаны часанымі камянямі і берагі, каб пілігрымы маглі абмыцца крынічнай вадзіцай. Там, каля той крынічкі, мела быць, паводле легенды, знойдзена цудадзейная ікона, аднак для выгады паломнікаў была яна перанесена ў Гадышэва. Побач крыніцы пабудаваны таксама станцыі Крыжовай дарогі. Ад нядаўна каля капліцы красуецца невялікі драўляны скіт, у якім жыве *pustelnik*.

Побач дарогі паміж Крыніцай і Гадышэвам размешчаны могілкі, з аднаго боку сучасныя, а з другога старыя. На старых могілках захаваліся толькі два крыжы, адзін з іх на магіле з 1945 года, дзе пахаваны малады чалавек, *zamordowany przez bandę*... Вяртаючыся ад Крыніцы мінаўся я з дзвюма пілігрымкамі з маладых людзей гімназічна-ліцэйскага ўзросту.

Гадышэўскі храмавы комплекс распаложаны на мяжы. І не толькі ідзе тут мова пра ранейшую этнічную мяжу, бо ж першыя пасяленцы прыбылі ў вёску са ўсходу, прыносячы за сабою і свой рэлігійны абрад. Навокал Гадышэва былі цэрквы ў Цеханоўцы, Высока-Мазавецку, Суражы, Браньску... З ходам часу моўная і канфесійная межы перасунуліся на ўсход. Была тут і згаданая раней дзяржаўная граніца. Зараз таксама граніца, толькі адміністрацыйная: Гадышэва ў Высока-Мазавецкім павеце, Крыніца — у Бельскім...



Капліца на Крыніцы

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Новая кніга Анатоля Парэмбскага



Фота Міры ЛУКШЫ

Анатоль Парэмбскі

Анатоля Парэмбскага сустракаем на паэтычнай імпрэзе ў Гарадку, арганізаванай Адамам Сяменчыкам. У агародзе на „O-Gródku" сабралася вялікая кампанія паэтаў з усяго свету, ды гаспадар не забыўся пра сваіх калег, з якімі друкаваўся ў зборніку „Жыццём пісанае" — з тутэйшай літаратурнай асацыяцыі „Каласы". Апрача найстарэйшага паэта з Валіл-Станцы прыйшлі яшчэ Станіслаў Дамброўскі з Сафіпаля і Раман Іванюк з Гарадка. Між іншым на аўтарскай сустрэчы ў атачэнні кветак якраз Анатоль Парэмбскі чытаў свае вершы па-беларуску, і гэта выклікала апладысменты сабраных. І параўнанне мелодыі ягоных вершаў да класікі; выступленне выклікала, між іншым, дэкламацыю вершаў Сяргея Ясеніна паэтэсамі з Варшавы.

— Гэта ўжо ваша трэцяя кніга, — любуюся на вокладку ў бярозкі. — У томіку вершы зноў пра родны Гарадок?

— Не толькі. Пра жыццё, адным словам, — кажа дзядзька Анатоль, 1927 года нараджэння. — Пра тое, што я памятаю, што ведаю, што *дзісь* ёсць, то ўсё гэта ў гэтай кніжцы можна вычытаць. Ну бо што можа больш чалавек пісаць? Пра тое, што ведае. Пра тое, што не знае — не напіша. Дык тое больш-менш так тут унятае. Так, хіба, як і ў папярэдніх маіх кнігах.

— Загаловак гэтага зборніка — „Воблакі і промні". Штосьці — усё ж такі — светлае?

— Ну так, вядома, жыццё не складаецца толькі з сонца. Размаітае яно бывае. Бывае яно і зацемненае, калі таго сонца не відна. Таму і тыя воблакі. А промні — так як *дзісь* відна. Сонца свеціць, і чалавек гэтым цешыцца. І так жыццё праходзіць. Так. Неўзабаве мне будзе 86 гадоў. Жыццё захутка ўцякае. Чалавек не думаў, што столькі будзе жыць, ды якась прыходзіцца, — смяецца. — мусі так — колькі каму прыходзіцца, столькі і жыве.

— Яшчэ пішуцца вам вершы?

— Пішуцца, але менш. Як сын памёр, мне неяк адпала *хэнць* пісання. Не пішацца мне так, як калісь.

— У вас было шмат сатырычных, вясёлых, жартаўлівых твораў.

— І жартаўлівы верш часам паяўляецца... Часам... Жыццё падыктуе штосьці цікавейшага, трапнага сказаць ці напісаць...

**(лук)**

*Анатоль ПАРЭМБСКІ*

### Пора Ванька землю

*Пора Ванька землю,*
*Конік цягне плуга.*
*Коніку зацяжка —*
*Паганяе пугай.*

*Тут аўса загонік,*
*Там загонік жыта.*
*Ой, нялёгка доля*
*Мужыка-сейбіта.*

*Нашто ж табе, Ванька,*
*Гэтая работа?*
*Ты з яе не маеш*
*Нават ані злота!*

*Ты гаворыш, злота*
*Тут трэба дакласці,*
*Але без зямелькі*
*Люд можа прапасці.*

*Усё жыццё гараў я,*
*Сеяў, збіраў плёны,*
*А як урадзіла —*
*Быў задаволены.*

*І я зжыўся з гэтым.*
*Як пакінуць землю?*
*Ні гараць, ні сеяць?*
*Галава не кеміць!*

### Дваццаць першы век

*Ой, чакалі, ой, чакалі*
*На той дваццаць першы век!*
*Цяпер знаем, што даждалі*
*Безрабоцця і калек.*
*Дваццаць першы век начаты*
*І прайшло ўжо кілька год,*
*І праходзіць годзік пяты,*
*Шосты прыйдзе да варот...*
*Так прыносіць век нам гэты*
*Кожны годзік большы зброд.*
*Нават пішуць усе газеты,*
*Што бунтуецца народ.*
*Для рабочых няма працы,*
*А хто робіць — паўдарма,*
*А для ўлады вельмі цацы:*
*П'юць із поўнага вядра!*
*Што стварыў народ за векі,*
*Расцягаюць шахраі,*
*А простаму чалавеку*
*Цяжка жыць ў сваім краі.*
*Мужыку забралі радасць*
*Гаспадарыць на сваім.*
*Прыязджае звонку гадасць*
*Мець кантролю над усім:*
*Дзе і як мужык што сее,*
*Як раскідвае кампост,*
*Чы карміць свінню ўмее,*
*Як карова носіць хвост!..*
*Гінуць людзі з рук нячыстых,*
*Хоць нібы няма вайны!*
*Скарацій дарогу розум*
*Ад святыні да турмы.*
*Крыжоў колькі пры дарогах,*
*Бо няспраўныя шляхі,*
*Чутна штодзень болей злога...*
*Дваццаць першы век такі!*




## www.altanka.com

Адной з асаблівасцей музычнага жыцця сучаснай Беларусі з'яўляецца захапленне часткай моладзі так званай сярэднявечнай музыкай. „Ніва" раней пісала пра гурты, якія граюць і спяваюць нібыта як гэта рабілі паўтысячагоддзя таму. Але і іншыя калектывы, што абралі для сябе даволі арыгінальны накірунак музычнай дзейнасці, таксама прыцягваюць увагу, тым больш, што напрыканцы ліпеня ў беларускім Мсціславе прайшоў так званы „Рыцарскі фэст".

Гурт, аб якім гаворка ў гэтым артыкуле, носіць прыгожую назву „Альтанка". Яго сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.altanka.com.**

«„Альтанка" — гэта адзін з правапераемнікаў калектыву „Троіца", які набыў папулярнасць у складзе Івана Кірчука, Зміцера Лук'янчыка ды Віталя Шкіленка. Пераможца сорасаўскага фестывалю „Саступі дарогу!" (1996 г.) і „Рок-каранацыі'98" (у намінацыі „Традыцыі і сучаснасць"), удзельнік шматлікіх міжнародных фестываляў: піцерскага, арганізаванага ў 1997 г. Тэатрам ДДТ, фестывалю „Адзіны свет", арганізаванага ў 1997 г. у гонар 850-годдзя Масквы, нідэрландскіх, славенскіх, аўстрыйскіх, венгерскіх, польскіх і інш. фэстаў. — „Троіца" ў 1998 г. на галандскай студыі Pan Records запісвае альбом і ў 2000 г. спыняе існаванне. У 2004 г. збіраецца гурт „Альтанка" ў складзе Зміцера Лук'янчыка, Віталя Шкіленка, Сашы Джая. У траўні 2012 г. з групы сыходзіць Дзіма Лук'янчык. З гэтага моманту пачынаецца найноўшая гісторыя гурту», — прэзентуюць свой калектыў яго сябры на старонцы „Пра гурт". На той жа старонцы месціцца і іх партрэтныя фотаздымкі. Гэта Дар'я Лаўрэнцьева (вакал, домра, мандаліна, дуда, гармонік), Саша JI (бас-гітара, бас-домра, вакал), Віталь Шкіленак (гітара, домра, мандаліна, перкусія, вакал) і Філіп Дылеўскі (барабаны, перкусія, вакал).

Варта адзначыць, што даная старонка — адна з найбольш насычаных інфармацыяй сярод іншых. Праўда, яна не перадае асаблівасці выканання песень „Альтанкай", і для таго, каб гэта пачуць і пабачыць, трэба перайсці на старонкі „Музыка" альбо „Відэа".

Рубрыка „Музыка" змяшчае толькі пяць песень, але праслухаўшы іх можна даволі добра высніць для сябе, у чым заключаецца адметнасць „альтанкаўскага" выканання, якое мае моцны ідэйны падмурак. „Па-мойму, гэта адзіная сапраўды перспектыўная музыка, якая можа тут быць. Беларусы граюць беларускую музыку. Калі прыязджаеш у Бразілію, хіба можа быць цікавы, прынамсі, амерыканскі рытм-энд-блюз у выкананні бразільцаў? Так і тут. Іншаземцам цікавыя беларусы з іх каранямі і нацыянальнай музыкай. Усё астатняе — гэта толькі пародыя. Альбо на рок, альбо на поп", — тлумачыць Аляксандр Андрэшчук (Саша JI) „Музычнай газеце" ў рубрыцы „СМИ" рускамоўнай версіі сайта.

На старонцы „Відэа" месціцца шэсць відэасюжэтаў выступаў „Альтанкі". Праўда, дзе і калі гэтыя выступленні мелі месца, не паведамляецца, што трэба палічыць недапрацоўкай стваральнікаў сайта.

Увогуле, гурту варта было б звяртаць больш увагі на сваё віртуальнае прадстаўніцтва. Так, нягледзячы на трохмоўе сайта (ён мае англійскую, беларускую і рускую версіі), не ва ўсіх рубрыках знойдзеш беларускі тэкст, „Навінам" па-беларуску патрабуецца рэдактар, а змест „Прэсы" з'яўляецца дублем рубрыкі „Пра гурт".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара



Фота з архіва Сяргея Чыгрына

Пакінуў пасля сябе музеі

# 100 гадоў з дня нараджэння Міхася ПЕТРЫКЕВІЧА

31 ліпеня 1913 года ў вёсцы Падкасоўе, што на Навагрудчыне, у праваслаўнай сям'і нарадзіўся Міхась Петрыкевіч, беларускі краязнавец, музеязнавец, педагог. Вучыўся ў пачатковай школе, пасля скончыў двухгадовую школу ў Адампалі. У 1925 годзе паступіў у Навагрудскую беларускую гімназію. Як удзельнік заходнебеларускага моладзевага руху ў апошнім класе быў арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены. Прысуд быў такі — тры гады няволі і дзесяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Пасля выхаду з турмы Петрыкевіч тры гады быў рабочым у Налібоцкай пушчы. Зімой 1938-1939 гадоў вучыўся ў Вільні на прыватных вячэрніх курсах пры сярэдняй тэхнічнай школе. Потым працаваў на меліярацыі на Шчучыншчыне. У 1940-1941 гадах вучыўся на літаратурным факультэце ў Беластоцкім педагагічным інстытуце. У вайну жыў на вёсцы, працаваў рахункаводам дарожнага аддзела ў мястэчку Любча, у канцы вайны прайшоў савецкае войска.

Пасля вайны Міхась Петрыкевіч паступіў вучыцца на літаратурны факультэт Мінскага педінстытута, пасля працаваў настаўнікам беларускай мовы, літаратуры, працы ў школе ў Карэлічах. Потым пераехаў у мястэчка Валеўка, дзе быў завучам і стварыў мясцовы краязнаўчы музей. Яшчэ пазней быў плённы дзятлаўскі перыяд, які пачаўся ў 1967 годзе. У Дзятлаве Петрыкевіч стварыў музей фактычна з нуля, а ўсяго праз год ён ужо адчыніў свае дзверы. Па сведчаннях сучаснікаў Міхась Петрыкевіч быў чалавекам высокай культуры і энцыклапедычных ведаў, пра кожную рэч у сваім музеі мог расказаць цікавую захапляльную гісторыю. Прыйшло і прыжыццёвае прызнанне — ён быў уганараваны тытулам заслужанага настаўніка школы БССР, узнагароджаны шматлікімі дыпломамі і граматамі. Ну а музей стаўся месцам вяртання з нябыту многіх імёнаў Дзятлаўшчыны. Пры чынным удзеле Петрыкевіча былі пастаўлены і шэраг помнікаў, у тым ліку бюст Ігната Дварчаніна ў Дзятлаве.

Міхась Петрыкевіч быў добра знаёмы і сябраваў з беларускімі адраджэнцамі — Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Уладзімірам Калеснікам, якія часта прыязджалі да яго на гістарычную Навагрудчыну. Шчырымі паслядоўнікамі бацькі ў справе беларускага Адраджэння сталі ягоныя дзеці — Валерый і Святлана (нядаўна яна адышла ў лепшы свет), якія актыўна ўключыліся ў дзейнасць беларускіх арганізацый. З імі аўтару гэтых радкоў пашчасціла блізка пасябраваць.

У 1985 годзе Міхась Петрыкевіч пераехаў настала ў Вільню. Памёр ён 6 сакавіка 1999 года. Пахаваны на могілках Карвялішкес ля Вільні. Найлепшыя ж помнікі гэтаму руплівцу беларушчыны — краязнаўчыя музеі, якія ён стварыў. У траўні 2003 года ў Дзятлаўскім музеі экспанавалася выстава „След на зямлі", пачэснае месца на якой належна заняў і Міхась Петрыкевіч.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Шляхам рэлігійных традыцый і нацыянальных культур

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*



Мячэць у Крушынянах, з увагай слухалі аповеду экскурсавода

Афіцыянткі сталовай „Татарская юрта” ў Крушынянах спачатку падалі нам гарбату і пячэнне. Калі мы ласаваліся духмяным напіткам і булачкамі (пасля больш чым двухгадзіннага падарожжа былі яны нам вельмі смачнымі), у гасцінную зайшла невялікага росту жанчына. Джынсавы касцюм, прыжмураныя вочы і прычоска больш напаміналі жакейку, чым бізнесменку. Спыніўшыся пасярэдзіне залы, адрэкамендавалася: „Завуць мяне Джанэта Багдановіч. Я з'яўляюся гаспадыняй памяшкання, значыцца — уладальніцай. Вёска Крушыняны каралём Янам III Сабескім была нададзена татарам, якія ўдзельнічалі ў вайне з туркамі на баку Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Прытым кожны ваяр атрымаў званне шляхціца. Наш продак удзельнічаў у вайне і атрымаў гэтую маёмасць, якая перадавалася з пакалення ў пакаленне. Дзед майго мужа Міраслава, Аляксандар Багдановіч, апошні ўладальнік маёмасці, перадаў яе наследнікам. Больш аб гісторыі пачуеце ад праваднікa пры наведванні мячэці. А зараз жадаю прыемнага апетыту”, — сказала гаспадыня „Татарскай юрты”.

Арганізатарка экскурсіі Аліна Зазулінская перад ад'ездам гаварыла, што абед будзем спажываць у двух турах — па сорак чалавек кожны. На месцы выявілася, што гасціная можа памясціць намнога больш кліентаў. Наша экскурсія з 86 чалавек (разам з шафёрамі аўтобусаў) уся змясцілася за адным падыходам. Абед быў смачны. Асабліва прысмакам аказалася асноўная страва — „ечпачмак”.

— З чаго была падрыхтавана начынка гэтай адмысловай стравы? — пытаю гаспадыню.

— З агародніны і мяса, — адказала яна з усмешкай.

З якога не сказала, бо гэта яе кулінарная таямніца.

З размовы з Джанэтай Багдановіч я даведаўся, што мая субяседніца з'яўляецца польскай татаркай. У Крушыняны перасялілася ў 1982 годзе. Тут выйшла замуж і разам з мужам арганізавалі агратурыстычную кватэру „Татарская юрта”. На брак кліентаў спадарыня Джанэта не наракае. У Крушыняны прыязджае шмат айчынных і замежных экскурсій, якія не абмінаюць агратурыстычнай кватэры Багдановічаў. Працавітасць, добразычлівасць і гасціннасць — гэта характэрныя татарскаму насельніцтву рысы. І такімі вылучаецца гаспадыня „Татарскай юрты”.

Час развітацца з гасціннай Джанэтай Багдановіч. Робім апошнія закупкі: адмысловае здобнае пячэнне і памятныя паштоўкі, і падаемся ў распаложаную непадалёк мячэць.

Пры ўваходзе здымаем абутак. Так наказвае мусульманская традыцыя. Хто басанож, хто ў шкарпэтках праходзім у сярэдзіну мячэці. Не прыкмеціў я лавак для сядзення. Унутраная прастора святыні раздзелена на мужчынскую і жаночую часткі. Уваход для жанчын знаходзіцца на асноўнай восі. Званчаны ён трохвугольным тымпанонам, па якога баках узвышаюцца дзве вежы. Уваход для мужчын знаходзіцца ў бакавой сцяне. Памяшканне для жанчын намнога меншае ад мужчынскай часткі. Раздзяляе іх перагародка, у якой на вышыні аднаго метра зроблена падоўжная шчыліна, закрытая фіранкай. Падлога засланая дыванамі. Сцены ўпрыгожаны мухірамі — каліграфічнымі запісамі радкоў з Карана.

Нашым экскурсаводам быў Джаміль Гэмбіцкі. Ад яго мы даведаліся, што татары атрымалі Крушыняны ў 1679 годзе за ўдзел у вайне з Турцыяй. Пасля засялення збудавалі яны мячэць, аб якой упершыню ў дакументах згадваецца ў 1717 годзе. Цяперашняя святыня была праўдападобна збудавана пры канцы XVIII або ў пачатках XIX стагоддзя, на месцы даўнейшай мячэці. Рамантаваўся будынак у 1846 годзе, аб чым сведчыць камень у фундаменце пры ўваходзе для жанчын. Мусульманская грамадскасць павялічылася пасля Другой сусветнай вайны за кошт рэпатрыянтаў з Беларусі. Вядомай асобай стаў прафесар Мацей Муса Канапацкі, які ў пачатках працаваў журналістам „Нівы” (удастоіўся я гонару стаць ягоным сябрам). Асноўная малітва праходзіць у мужчынскай частцы на арабскай мове. Асаблівасцю для нас была навінка, прад'яўленая Джамілем Гэмбіцкім наконт разводаў. Каб атрымаць рашэнне аб адмене шлюбу, той хто падае заяву, вымушаны даказаць віноўнасць сужэнца. Калі не дакажа, дык вымушаны выплаціць яму штраф у памеры 30 тысяч долараў.

Цікавым помнікам гісторыі аказаўся могільнік. За ўваходнай брамай прыкмячаем пасобныя надмагільныя камяні, большыя і меншыя. На адных віднеюць неразборлівыя надпісы, сцёртыя многавяковымі дзеяннямі натуры, іншыя надпісы — чытабельныя. На цэментавым помніку чытаю: „Фелиция Степановна Масловская сконч. 18 февраля 1914 года на 30 году жизни”. На іншай шыкарнай надмагільнай пліце залатымі літарамі запісана: „Tu spoczywa imam parafii Kruszyniany Józef Korycki syn Samuela i Ewy ur. 1880 zm. 10 III 1935 r. pozostając w pamięci córek”.

Пакідаем Крушыняны. Чарговым прыстанкам краязнаўчай вандроўкі „Шляхам рэлігійных традыцый і нацыянальных культур” з'яўляецца манастыр у Супраслі. Падаемся ў напрамку Беластока. Праязджаючы праз Крынкі спыняемся на кароткі адпачынак, на марожанае. Пры нагодзе наведаў я мястэчка пакойнага Сакрата Яновіча, сардэчнага прыяцеля, з якім я быў знаёмы з 1959 года. Гэта Сакрат Яновіч надаваў напрамак майму карэспандэнцкаму супрацоўніцтву і пісанню прозы. У выніку дэбютаваў я на старонках „Нівы” аповедам „Першае каханне”. Апошні раз мы сустрэліся і памятныя здымкі зрабілі на юбілеі 55-годдзя нашага тыднёвіка ў Беластоку. З гэтым сумным успамінам пакідаем „Вілу Сакратэс” і набліжаемся да мэты нашага падарожжа — Супрасльскага манастыра.

Перад уваходнай брамай у манастыр спыняемся. Нашая важак Аліна Зазулінская выкупляе „цаглінку” на разбудову манастырскіх аб'ектаў. Праваднік, малады мужчына ў чорнай кашулі і джынсавых нагавіцах, расказ аб манастыры праводзіў на польскай мове. І гэта не спадабалася майму кампаньёну Янку з Палічнай. Выслухалі мы аповед пра мінулае манастыра з зацікаўленнем. Наведалі мы Дабравешчанскую царкву і крыпту, у якой пакоіцца загінуўшы ў смаленскай авіякатастрофе архіепіскап Міран. У храме жанчыны памаліліся і паставілі свечкі перад іконай Прасвятой Багародзіцы.

Пакідаем манастыр і падаемся да аўтобусаў. Час у зваротнае падарожжа. З Беластока кіруемся на Заблудаў, затым Нарву і Гайнаўку — у Кляшчэлі. Пакідаем па чарзе ўдзельнікаў экскурсіі ў Гайнаўцы, Арэшкаве, Вэрстоку, Вілюках, Палічнай і Курашаве. Тут развітваемся з важаком і арганізатарам экскурсіі Алінай Зазулінскай. Групай з дзевяці чалавек выходзім у Кляшчэлях. Дамоў дабіраюся адвячоркам на аўтамабілі, падасланым сямейнікамі. Так завяршыўся дзень поўны ўражанняў на вандроўцы, арганізаванай таварыствам „Стакротка” ў Курашаве ў суботу 20 ліпеня 2013 г.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — прыказку.

1. навука, якая вывучае развіццё арганізмаў і законы спадчыннасці = 15 _ 14 _ 19 _ 20 _ 10 _ 7 _ 8 _ 9 _;
2. адзначае імяніны 26 лютага = 6 _ 13 _ 1 _;
3. слаўная вясельным цудам мясцовасць у Галілеі = 12 _ 11 _ 18 _ 17 _;
4. аб'ект асаблівага захаплення і пакланення = 2 _ 5 _ 4 _ 3 _ 16 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Надзея, ом, сноп, верас, град, мат, Падуя, рукаў, калода, удаў, опера, дратва.

Рашэнне: **Дзе многа слоў, там прападае праўда**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 04.08 — 10.08

**(22.03. — 20.04.)** Знакамітая форма, асабліва ў дзвюх першых дэкадах. Рамантычныя сустрэчы, каханне. Пазбягай саперніцтва, не стаў спраў рубам. 4-6.08. прадбачваюцца фінансавыя праблемы не па тваёй віне. 6-10.08. дома дні, вынікі якіх будуць важныя. У кар'еры змены і выклікі.

**(21.04. — 21.05.)** Чакае цябе экзамен па дыпламатыі. Лепшназірай, чым дзейнічай. Калі на працы маеш ворага, не прыручвай яго. Дома не шукай нагоды да сваркі; будуць і войны, і ідылія. 4.08. — ідэальны час на рандэву. Можа будзеш трывожыцца станам свайго здароўя, але адзіная магчымая хвароба — іпахондрыя.

**(22.05. — 22.06.)** Многа змен, шмат рызыкі, але і шанцы на выйгрыш. Не забывай аб толку. З 9.08. можа прыйдзецца адмовіцца ад некаторых планаў; некаторыя справы, якія бачыліся ня́блага, могуць пайсці горш (да 13.08.). У першай палове месяца шмат нерваў і фрустрацыі; разгружайся фізічнай актыўнасцю.

**(23.06. — 23.07.)** Будзе шмат тварыцца! Часам стрымай эмоцыі, а часам слухай голасу пачуццяў. На працы можа перакуліцца тое, што ты старанна будаваў; сітуацыя можа запаліцца (твой шэф цябе падтрымае або дасць цікавую прапанову). 6-10.08. некарысны час для рашэнняў, асабліва пад уплывам эмоцый. Паміж 8 і 24.08. зоркі памогуць табе задбаць аб будучыню; добры час на інвестыцыі, паляванне на нагоды.

**(24.07. — 23.08.)** 4-6.08. — змены да лепшага; многа добрых задум. Цудоўная першая палова жніўня для здароўя. 8-24.08. — вельмі добра варожыцца для дамоў; усе змены будуць удалымі. Але 4-6.08. кепскі момант на рандэву, нялёгкія размовы ці падпісванне кантрактаў; будзе рызыка, што хтосьці схоча цябе здамінаваць.

**(24.08. — 23.09.)** Раз на возе, раз пад возам. Не ацаняй іншых лішне сурова. Можа аказацца, што ў радні паставіш папярочку завысока, і твае спадзяванні будуць нерэальныя. З 9.08. (да 13.08.) можаш паслабець і паявіцца праблемы; пазбягай рызыкі і не дайся ахапіцца хандры. Дзвевам народжаным 25-30.08. можа здзейсніцца сон аб цудоўным каханні.

**(24.09. — 23.10.)** Прадбачваецца бурнае лета. Бліснеш, загрыміць, але паявіцца вясёлка. 4.08. будзеш у знакамітай форме, дасягнеш намечаных мэт. 4-08.08. вялікі прыліў сілы. Сапернікаў пакінеш далёка ззаду! Увесь месяц будзеш дзейнічаць на ўсю катушку. 6-10. 08. адпусці хатнія справы, займіся кар'ерай. З 9.08. (да 13.08.) дысцыплінуй выдаткі.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш шмат прыдбаць, але і шмат страціць, таму мерай сілы на намеры. У пачуццях рызыкоўнае вяртанне да мінулага. Будзеш мець вялікую сілу волі і не схочаш дазволіць сабе на хвіліну слабасці, што можа адбіцца на тваім здароўі, а імунітэт цяпер у цябе слабы. На працы будзеш баявіты і амбітны. 6-10.08. некаторых праблем не абмінеш; можаш солана паплаціцца за памылкі!

**(23.11. — 22.12.)** Сустрэне цябе шмат добрага, пры ўмове, што ўрэшце пачнеш памятаць аб сабе! Першая палова месяца вельмі плённая ў кар'еры. Магчымы хатні канфлікт, з вялікай роляй дзяцей. 6-10.08. не ўсё пойдзе згодна з тваімі планамі, а твае старанні могуць пайсці ўпустую. З 9.08. могуць нахлынуць на цябе панурыя думкі. У жніўні гэта ты вырашай пра касу, нават калі не ты прыносіш дадому найбольш грошай.

**(23.12. — 20.01.)** Жнівень прынясе табе магутны прыліў энергіі; выкарыстай яе разумна. 6-10.08. — час спрыяючы ўсялякаму развою. Сядзь на дыету, патрэніруй цела. Шмат спраў складзецца добра, толькі не вaюй з жанчынамі. 8.08. можаш шмат зарабіць. З 9 (да 13.08.) будзеш прымушаны адмовіцца ад нейкай сваёй прыемнасці.

**(21.01. — 19.02.)** 4-6.08. — самаўпэўненасць, аптымізм, пашанцуе табе вырашыць шмат праблем. Але спрэчкі са сваякамі, суседзямі. Будзь асцярожны з лакомствам — і страўнік збунтуецца, і можаш паправіцца. У кар'еры не дасі сябе падпарадкаваць — найцяжэйшы час — з 9.08. (да 13.08.).

**(20.02. — 21.03.)** У сэрцы цудоўнае лета — аж да 28.08.! Да 23.08. выдатнае здароўе і добры настрой. 4-5.08. будзеш поўны красы, і прыцягнеш таксама кагосьці вельмі цікавага. 4-8.08. паспяхова пазмагаешся за сваё.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,** BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

# Партугалія, а якая я?

**Праграма Эразмуса ўзнікла ў Еўрапейскім Саюзе ў 1987 годзе. Галоўная яе ідэя — развіваць міжнароднае супрацоўніцтва паміж вышэйшымі навучальнымі ўстановамі па абмене студэнтамі і выкладчыкамі. Назва Эразмус звязана з імем Эразма Ратэрдамскага, нідэрландскага мысліцеля-гуманіста і пісьменніка, які не без прычыны, як і іншыя буйнейшыя прадстаўнікі Рэнесансу, вучыўся ў многіх універсітэтах Еўропы, а яго погляды па адукацыі былі прасякнуты глыбокім гуманізмам. Яго „Пахвала дурасці" і рэлігійныя погляды між іншым, што „Святое Пісанне" трэба чытаць на роднай мове, разагравалі нашы душы і галовы ў сярэдняй школе.**

А цяпер як жа не пайсці следам вучоных эпохі Адраджэння, калі адкрытая дарога, калі Беластоцкая палітэхніка з 1998/1999 навучальнага года ўдзельнічае ў праграме і многія студэнты карыстаюцца выездамі. Атрымаць статус студэнта Эразмуса аказалася вельмі проста. Патрэбныя добрыя ацэнкі ў навуцы і веданне англійскай мовы або мовы краіны, у якой маем намер вучыцца

Выбралі мы Вышэйшы тэхнічны інстытут (Instituto Superior Técnico) у Лісабоне — сталіцы Партугаліі. Праўда, здаецца, Эразм Ратэрдамскі там не быў, але тут задзейнічалі іншыя фактары. Мая сяброўка, аднакурсніца Паўля Вышамерская, калі мы адкінулі па розных прычынах усе іншыя еўрапейскія краіны і аставілі Барселону і Лісабон, запытала мяне: «Ну, Наталля, калі б у цябе быў выбар Расія ці Беларусь, ты выбрала б краіну вялікую ці малую?».

Выбар краіны на маю і маёй сяброўкі прыгоду з Эразмусам быў несумненна цяжкі. Вырашыла ў большай ступені выпадковасць, чымсьці свядомы выбар. Сёння, пасля майго вяртання з Лісабона, магу сказаць, што гэта была найлепшая пастанова ў маім жыцці. Студэнцкія абмены Эразмуса, апрача турыстычных атракцыёнаў, прыносяць у першую чаргу навуковыя карысці. Мне, студэнтцы архітэктуры і ўрбаністыкі, вучоба ў замежнай навучальнай установе была несумненна выклікам — апрача змены асяроддзя, новых выкладчыкаў, змянілася таксама тэматыка заняткаў, а ў першую чаргу мова, на якой я мела прыемнасць вучыцца ў інстытуце ў Лісабоне.

Вышэйшы тэхнічны інстытут — сучасная навучальная ўстанова ў плане тэхнічнага абсталявання. Студэнты карыстаюцца інтэрнэтам, друкарняй і бібліятэкай. На тэрыторыі ўстановы знаходзяцца сталовая, тэнісны корт і басейн. Інстытут дасканала падрыхтаваны да прыёму замежных студэнтаў. Усе заняткі для студэнтаў 4 і 5 курсаў могуць весціся на англійскай мове. Менавіта гэтым карысталася я пры выбары прадметаў, большая частка якіх належала да праграмы 4 курса: архітэктурнае праектаванне, праектаванне асяроддзя, будаўніцтва і таксама горадабудаўнічае і рэгіянальнае планаванне. Толькі прадмет «тэхнічны рысунак» адносіўся да 3 курса. Дзякуючы добрай волі выкладчыкаў студэнты Эразмуса атрымалі шанц на індывідуальнае навучанне на англійскай мове. Паўгода заняткаў на англійскай мове спрычынілася да таго, што мае моўныя веды надта палепшыліся і мае моўныя кантакты не ствараюць для мяне найменшай праблемы. Пазнала я таксама шмат спецыялістычнай лексікі. Веданне англійскай мовы на высокім узроўні несумненна дапамагае адчыніць дзверы да будучай працы над праектамі не толькі ў Польшчы, але і ў Еўропе

Усе студэнты архітэктуры і ўрбаністыкі дасканала ведаюць, якім працаёмкім з'яўляецца гэтае навучанне, што патрабуе яно вялікай самаахвярнасці. Аднак толькі ў Лісабоне можна зразумець, што гэта сапраўдная страсць. Студэнты тут вельмі хочуць працаваць, таму што архітэктура з'яўляецца ім цэлым светам. Такое мысленне апанавала і мяне. Сталася так па прычыне маіх партугальскіх сяброўак і сяброў, але ў першую чаргу з-за выкладчыкаў. Тут падыход настаўніка да студэнта больш індывідуальны, чымсьці ў Польшчы. Настаўнік становіцца свайго роду ментарам, праваднiком, які можа і хоча паказаць студэнту дарогу развіцця. Якое ж было маё здзіўленне, калі я, працуючы ў інстытуце разам з іншымі студэнтамі над макетам да позніх гадзін вечара, раптам убачыла свайго прафесара, які ўвайшоў у залу апоўначы. Вялікай нечаканасцю быў для мяне таксама факт, што студэнты інстытута не забіраюць працы дахаты, а ўсе макеты і праекты выконваюць у залах установы. Усе праекты выконваліся ў групах, а не індывідуальна. Матывацыя тут была такая, што прафесійная праца архітэктара гэта ў першую чаргу праца калектыўная.

У Лісабоне знаходзяцца арганізацыі, напрыклад «Эразмус Лісбоа», якія клапоцяцца, каб замежныя студэнты мелі многа атракцыёнаў. Праводзяцца супольныя сустрэчы, імпрэзы і экскурсіі. Мы пакарысталіся гэтымі прапановамі і адведалі самы крайні заходні пункт Еўропы — мыс Рока, гарады Каімбра, Фатыма, Порту, Обідуш, Сетубал, Лагуш, Сінтра і іншыя.

* * *

Прызямліліся мы 7 верасня 2012 года ў аэрапорце ў Лісабоне. Калі лістота на дрэвах у Беластоку пачынала станавіцца карычневай і залатой, то Лісабон пасля выхаду з кандыцыяніраванай залы прылётаў заліў нас гарачым і духмяным паветрам ад кветак у поўным росквіце. Сапраўды, цяжка было паверыць, што апынуліся мы ў найбольш аддаленай на захад ускраіне Еўропы, дзе польскі снег і мароз здаваліся быць звычайнай казкай, якая не мае права існаваць.

Партугальскія студэнты пачынаюць заняткі ў палове верасня. Прыехалі мы крыху раней, каб была магчымасць бліжэй пазнаёміцца з горадам. Абмежаваныя толькі трываласцю нашых ног — знаёміліся мы з экзатычным горадам, з якім давялося звязаць свой лёс. Спякотныя дні, праведзеныя на вандроўках маляўнічымі вулачкамі Лісабона, і загаранне на пляжах суседніх гарадкоў былі перапоўнены здзіўленнем і захапленнем.

Сталіца Партугаліі, несумненна, не з'яўляецца тыповай еўрапейскай сталіцай, дзе ўсе, што спяшаюцца на працу з пункта А да Б, не звяртаюць увагі на тых, каго мінаюць па дарозе. Лісабон — старажытны горад. У ім старыя камяніцы, абкладзеныя традыцыйнымі, уручную маляванымі пліткамі *azulejos*. Вузкія, шырынёю на некалькі метраў вулачкі, брукаваныя характэрнымі двухколернымі камянямі, складзенымі ў прыгожыя ўзоры, ствараюць непаўторную атмасферу. Немагчыма не паддацца ўражанню, што тут час спыніўся, таму і людзі пачалі жыць быццам бы вальней.

Першы раз мая тэорыя знайшла пацвярджэнне на пешаходным пераходзе, дзе я заўсёды чакала зялёнага святла са здзіўленнем назіраючы за партугальцамі, якія, не зважаючы на святлафор, спакойным крокам пераходзілі праз вуліцу. Найбольш нечаканым было тое, што кіроўца аўтамашыны не ўскіпаў ад гневу, толькі спыняўся і спакойна прапускаў пешаходаў. Падобная сітуацыя здаралася на пешаходных пераходах без святлафораў. Убачыўшы надыходзячую аўтамашыну, навучаная польскаю рэчаіснасцю, чакала я пакуль машына праедзе, а здзіўлены кіроўца пастукаўся ў лоб, угледзеўшы са здзіўленнем незвычайнае маё чаканне. Прыйшла мне ў галаву такая думка, што пешаходы трактуюцца тут як святыя каровы, а лісабонская пашана да іх тут абсалютна выключная. Канчатковым пацвярджэннем была для мяне сітуацыя, калі сведкам шматлюднага пераходу на чырвоным святле быў паліцыянт. Я з непакоем чакала яго рэакцыі, аднак ён нават не мігрнуў вокам, не выняў блакнота і не выпісаў штрафу, як быццам бы чырвонае святло было толькі ўказаннем, а не загадам, якога трэба прытрымлівацца. *(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Наталлі ШВЕД**



Saudade: „На жаль трэба вяртацца ў Польшчу". Паўля Вышамерская і Наталля Швед



Панарама Лісабона



Лагус — поўдзень Партугаліі



Вулічка ў Лісабоне



Старыя жоўтыя трамваі № 28 на вузкіх вулічках найбольш характэрныя для горада

ISSN 0546-1960